


# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

26 ВЕРАСНЯ 2003 г. № 39/4225

ВІНШУЕМ!



# „БЕЛАЗ" — УЗНАЧАЛЬВАЕ ГЕРОЙ БЕЛАРУСІ!

*24 верасня гіганту беларускай прамысловасці — "БелАЗу" — споўнілася 55 гадоў.*

Стар. 12

# КОЛА ДЗЁН

**У Ялце прайшоў Саміт кіраўнікоў дзяржаў СНД. Лідэрамі Беларусі, Расіі, Казахстана і Украіны былі падпісаны Пагадненне і Канцэпцыя аб фарміраванні Адзінай эканамічнай прасторы. "Расія, Украіна, Казахстан, робяць рэальныя крокі наперад — і мы будзем ісці ў нагу. Калі пойдуць зноў агаворкі і розныя хуткасці, розныя ўзроўні інтэграцыі, Беларусь не будзе гэтым займацца, таму што гэта вялікія затраты і перспектыва зноў жа паўтарыць лёс СНД" — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што ад эфектыўнай эканамічнай інтэграцыі чатырох краін "можна атрымаць добры эфект". Прэзідэнты Беларусі, Расіі, Казахстана і Украіны прадоўжылі мандат Групы высокага ўзроўню па стварэнні Адзінай эканамічнай прасторы. Наступны саміт кіраўнікоў дзяржаў СНД пройдзе 16 верасня 2004 года ў Астане.**

## УРАЧЫСТАСЦЬ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўзяў удзел ва ўрачыстай цырымоніі закладкі памятнага каменя на месцы стварэння новага парку сталіцы. Кіраўнік дзяржавы пасадзіў першае дрэва будучага парку, які размесціцца непадалёку ад месца будаўніцтва новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі. У час урачыстай цырымоніі Прэзідэнт сказаў, што будаўніцтва жылля, дарог, адраджэнне вёскі, а таксама добраўпарадкаванне сталіцы і ўсёй краіны будуць і ў далейшым галоўным прыярытэтам кіраўніцтва Беларусі. Было адзначана, што сядзіба мастака Ваньковіча, гарадок "міні-Беларусь", музычныя фантаны, спартыўныя збудаванні, якія хутка з'явяцца, — усё гэта пакажа, чаго можна дасягнуць у згодзе з прыродай, не раскрадаючы, а гарманічна павялічваючы яе багацці. Паводле слоў Прэзідэнта, памятны камень стане своеасаблівым захавальнікам парку і яго вечным абаронцам.

## УГАНАРАВАННЕ ТЫДНЯ

Знакамітаму расійскаму вучонаму, лаўрэату Нобелеўскай прэміі 2000 года Жарэсу Іванавічу Алфёраву прысвоена ганаровае званне "Ганаровы грамадзянін горада Віцебска". Так вырашылі мясцовыя ўлады, паколькі Алфёраў — ураджэнец культурнай сталіцы нашай краіны.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

За апошнія гады аб'ёмы будаўніцтва жылля ў сельскай мясцовасці павялічыліся на парадак. Так, калі ў 1996 годзе на вёсцы было ўведзена ў эксплуатацыю 385 тысяч квадратных метраў, то ў 1999-м ужо больш за 890. Сёлетняе заданне вызначана ў памеры 900 тысяч кв. метраў.

## "АДКРЫЦЦЁ" ТЫДНЯ

23 верасня ў Магілёве распачаўся юбілейны 115 тэатральны сезон у Магілёўскім абласным драматычным тэатры (дырэктар — А. Новікаў). На працягу апошніх верасінёўскіх дзён быў разыграны прэм'ерны спектакль "Прыходзь і зводзь" паводле п'есы вядомай расійскай пісьменніцы-драматурга Н. Птушкінай.

*НА ЗДЫМКУ: Магілёўскі абласны драмтэатр напярэдадні адкрыцця новага тэатральнага сезона.*




## КОНКУРС ТЫДНЯ

Конкурс "Міс Еўропа— 2003" прайшоў у парыжскім прыгарадзе Нажан-сюр-Марн. Удзел у гэтым спаборніцтве ўзялі пераможцы нацыянальных конкурсаў прыгажосці з 36 краін. А ў фінал здолелі прайсці толькі пяць канкурсантак — прадстаўніцы Іспаніі, Венгрыі, Польшчы, Славакіі, Сербіі і Чарнагорыі. Беларуска Вольга Сяржнікава, на жаль, "адсеялася" яшчэ ў паўфінале. Пераможцай конкурсу "Міс Еўропа — 2003" стала прыгажуня з Венгрыі Сюзана Лакі. Званне першай віцэ-міс атрымала дзяўчына з Славакіі.





Жыццё, як мы ведаем, не стаіць на месцы. Найбольш выразна адчуваеш унутраны напор жыццёвай плыні, як ні парадаксальна, у глыбінцы. Асабліва — увосень. Ажно дол гудзіць на калгасных палетках і прысядзібных сотках ад сельгасмашын, хоць і зношаных, латаных-пералатаных, але якія нястомна працуюць. Менавіта тут, а не ў горадзе асабліва абвострана і арганічна пачынаеш разумець сэнс пагаворкі "летні дзень год корміць".

Дзяржава наша, нягледзячы на прыродныя і эканамічныя катаклізмы, не пакідае без увагі чалавека працы, бясспрэчна, але жыццё ўсё настойлівей год ад году падказвае, што лепей таксама і самому паклапаціцца пра сябе.

У горадзе, на жаль, на працягу дзесяцігоддзяў прывівалася іншая псіхалогія... Маўляў, калі здолеў выбрацца з вёскі і неяк заякарыцца ў горадзе — клопаты аб табе (ва ўсялякім разе, значную іх частку) бярэ на сябе дзяржава. Аўтаматычна. Такая псіхалогія ўрэшце ствaральнай працай. Сёння лішні раз пераконваешся ў гэтым, калі бярэш у рукі чарговы том "Беларускай Нацыянальнай Энцыклапедыі"... Так, ужо шасцацаты! Па-рознаму, вядома, можна аднесціся да гэтай лічбы, дадаўшы да яе словы "ужо" або "яшчэ толькі", тым самым уклаўшы ў іх змест свае адносіны да гэтай несумненнай з'явы ў культурным жыцці краіны.

А здаецца, толькі ўчора культурна-асветніцкае жыццё рэспублікі, запаволенае і разгубленае, было раптам азорана такой значнай падзеяй, як выхад першага тома гэтага фундаментальнага выдання, без якога мы, як нацыя, рызыкавалі доўга яшчэ заставацца глухімі, сляпымі і бездапаможнымі пасля сумна вядомых катаклізмаў на тэрыторыі былой вялікай краіны.

Час ляціць імкліва, адмятаючы на сваім шляху ўсё дробязнае, другаснае, фальшывае, фіксуючы нашу ўвагу на сапраўдных каштоўнасцях, на з'явах і падзеях, якія ўплываюць і ўздзейнічаюць на не на асобных кнігах выдавецтва, то на асобных артыкулах. Але энцыклапедыя — кніга вечная, таму яна не павінна падвяргацца нават самай нязначнай палітычнай кан'юнктуры.

Выданне павінна строга апірацца на дакумент, факт, лічбу, і толькі.

Здаецца, яшчэ ўчора ў друку вялася дыскусія накшталт таго, ці мэтазгодна выдаткоўваць немалыя сродкі на выданне новай энцыклапедыі, калі мінула толькі 20 гадоў з таго часу, як было цалкам завершана выданне першай у гісторыі Беларусі 12-томнай "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі". Пазіцыя Прэзідэнта і грамадскасці краіны была ў гэтым пытанні адзіная — неабходна!

Дзякуючы намаганням кіраўніка краіны, справу раскруцілі даволі хутка, значна апярэдзіўшы ў гэтым напрамку суседзяў. У заліку — 16 тамоў, тады як у расіян, скажам, на выхадзе толькі другі ці трэці том, і гэты факт красамоўна гаворыць сам за сябе.

# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ЯК ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫ ПАДМУРАК НАЦЫІ

## РАЗВАГІ НАПЯРЭДАДНІ ВЫХАДУ ПЕРАДАПОШНЯГА ТОМА БЕЛАРУСКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

дала шкодныя парасткі — расплодзілася племя спажыўцоў, якое не падлягала і не падлягае, тым болей сёння, ніякаму статыстычнаму ўліку.

Але часы памяняліся. Яшчэ ўчора апазіцыйныя аракулы суцяшалі гэтае люмпенізаванае племя абяцаннямі, што, маўляў, калі восьмы прыйдзем да ўлады — вы будзеце атрымліваць па 300 долараў, як гэта ёсць у "цывілізаваных еўрапейскіх краінах". А ў дадатак жа да ўсяго, каб падкрэсліць сваю нацыянальную прыналежнасць і непаўторнасць, будзеце насіць саламяныя капялюхі, жупаны ды світкі, пускацца ў скокі толькі пад гукі цымбалаў, жалейкі, дудачкі і бубена. Апошняе, дарэчы, не так ужо і кепска, вось толькі дзе набрацца тых паабяцаных 300 долараў на кожнага? Гэта хутчэй нешта з вобласці фантастыкі, дакладней, з Ільфа і Пятрова (толькі там яшчэ, калі памятаеце; фігуравала "талерачка з блакітнай каёмачкай"), а калі казаць прасцей, атрымліваецца тая самая "цацанка-пабяцанка — дурню забаўка".

На самай жа справе не ўсё ў нашым жыцці так кепска, як бы таго, можа, некаму хацелася. Я маю на ўвазе не толькі працавітую глыбінку, але й горад. Беларускі канвеер не спыніўся — па-ранейшаму выдае на гара свае універсальныя трактары, магутныя "МАЗы", "БЕЛАЗа", тэлевізары, халадзільнікі, гадзіннікі, электроніку, прадукцыю дакладнага прыборабудавання, якая, як і ў былыя часы, карыстаецца нязменным попытам на ўсёй постсавецкай тэрыторыі, а таксама далёка за мяжой.

Калі ж гаварыць пра творчую інтэлігенцыю, у стане якой пастаянна шукае апірышча апазіцыя (варта нагадаць нядаўні Усебеларускі сход інтэлегенцыі), то далёка не ўся яна ахоплена мітынговымі страсцямі. Сапраўднаму інтэлігенту заўсёды было няёмка і сорамна сядзець на шыі ў гэтага самага "затурканага", "гаротнага" народа, нібы шырмай прыкрываючыся адстойваннем яго інтарэсаў, аб чым ён, народ, як гаворыцца, ні сном, ні духам.

Сапраўдная інтэлігенцыя заўсёды, ва ўсе часы, не зважаючы на палітычнае надвор'е, была занята развіццё цывілізаванага грамадства, пакідаючы адметны след у тых шматлікіх працэсах, што маюць непасрэднае дачыненне да лёсу ўсяго чалавецтва, яго будучыні.



Калейдаскоп падзей, з'яў і постацяў мяняецца штогод, штомесяц, нават — штодня, і ў сённяшняй жыццёвай кругаверці вельмі бывае няпроста вызначыць, аб'ектыўна і непрадузята, ш т о мы пакінем, кіруючыся агульна прынятымі нормамі маралі і эстэтыкі, у спадчыну нашчадкам, а ш т о — за бартом гісторыі.

Дык вельмі важна паказаць Праўду, якая б яна ні была: горкая ці салодкая, бадзёрая ці сумная. На праўдзе павінна будавацца ідэалогія нашай дзяржаўнасці. Трэба ўлічваць вопыт і ўрокі мінулага. Народу неабходна разуменне таго, на якой зямлі ён жыве, хто ён, які ён. Нам неабходна знайсці такі грунт, які дапамагаў бы ісці ўсім у адным напрамку з думкай пра лёс наступных пакаленняў.

Сродкі масавай інфармацыі не павінны падзяляць людзей па іх поглядах, пераканаханнях, веравызнанні і колеры скуры. Бо гэта не палігон для розных палітычных тусовак. Пэўны час у друку не заціхалі бурныя дыскусіі вакол факта з'яўлення нацыянальнай энцыклапедыі наогул. Калектывы СМІ, дзяржаўных і апазіцыйных, па сутнасці, уяўлялі дзве лініі акопаў, якія вялі між сабой перастрэлку. Калі на вайне нехта апынецца на паласе перакрыжаванага агню, то зможа хіба што паўзці. Аднак, да гонару нашых энцыклапедыстаў, яны пераадолелі гэтую небяспечную паласу ў поўны рост, у выніку чаго і левыя, і правыя пайшлі нарэшце разам, таму што наш кірунак — на Праўду. На нашай зямлі нам, якіх бы мы поглядаў і пераканняў ні прытрымліваліся, дзяліць па вялікім рахунку няма чаго. Акрамя Бацькаўшчыны, для беларусаў не існуе нейкіх "обетованных" зямель... Ёсць адна. Непадзельная. Дзе знайшлі свой прытулак нашы слаўныя продкі, дзе закапана таксама і наша пупавіна.

Так, мы жывём у надзвычай палітызаваны час. Гэтая акалічнасць не магла не адбіцца калі

Безумоўна, за ўсім гэтым стаіць нястомная праца рэдакцыі — калектыву энтузіястаў, людзей асаблівых, паколькі шматгадовая праца над рознага роду дакументальнымі выданнямі па-асабліваму ўздзейнічае на людзей, выхоўваючы ў іх грунтоўнасць і тонкі густ.

Сярод 150 прафесіяналаў, якія рыхтуюць сёння чарговыя тамы "вечнай кнігі", можна, на думку галоўнага рэдактара, вылучыць 15 сапраўдных "зубраў" — членаў-карэспандэнтаў акадэміі навук: фізікаў, хімікаў, мастацтвазнаўцаў, біёлагаў, філосафаў, літаратараў... З імі супрацоўнічаюць звыш 6 тысяч няштатных аўтараў, якія жывуць не толькі ў Беларусі, але і ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Кіеве, Варшаве...

Энцыклапедыя — гэта атрыбут дзяржаўнасці, як, скажам, герб, сцяг, гімн... З гэтым трэба, безумоўна, лічыцца. І гэта абавязвае да высокай адказнасці. У рынычны час марку трымаць вельмі няпроста ў такой справе, як выдавецкая. Да гонару калектыву "Беларуская Энцыклапедыя" выпрабаванне часам яны вытрымалі: за 30 гадоў дзейнасці тут выдадзена больш за 500 фундаментальных адна- і шматтомнікаў.

Нягледзячы на тое, што энцыклапедыя — кніга вечная, імклівы бег часу ўносіць у жыццё свае

змены, папраўкі і ўдакладненні. За 30 гадоў з моманту выхаду першага тома "БСЭ" у свеце значна змяніліся абставіны, прыйшлі новыя дзеячы палітыкі, культуры, мастацтва, адбыліся кардынальныя змены ў эканоміцы, на палітычнай карце планеты. З'явіліся новыя незалежныя краіны, у большасці з іх радыкальна памяняліся эканамічныя і сацыяльныя арыенціры, формы праўлення, узніклі новыя партыі, грамадска-палітычныя рухі. На жаль, у большасці выпадкаў гэтыя змены адбыліся не ў лепшы бок, аб чым яскрава сведчыць сумны вопыт паскоранай капіталізацыі нашага грамадства і катастрафічнае падзенне ў гэтай сувязі жыццёвага ўзроўню абсалютнай большасці грамадзян, асабліва ў поставецкіх краінах.

Асумна вядомая агульна-прымусовая пераацэнка каштоўнасцяў? Калі ў большасці выпадкаў чорнае выдаецца за белае — і наадварот?.. Аднак энцыклапедыя — не фіксатар-адстойнік негатыўных з'яў і працэсаў, што адбываюцца штодня ў цяперашнім свеце. Жыццё цяжка параўноўваць з казкай, дзе дабро заўсёды бярэ верх над злом, аднак пры ўсім пры тым станоўчае і стваральнае, безумоўна, пераважае адмоўнае і разбуральнае, інакш бы яно, жыццё, проста аднойчы прыпынілася. І, бадай, галоўнае. Выснову артыкулаў тамоў, якія ўжо пабачылі свет, усё ж складае назапашаная чалавецтвам духоўная скарбніца, якая не падлягае з цягам часу ніякім рэвізіям, пераацэнкам і камісіям. Гэта тыя самыя непераходзячыя каштоўнасці, на якіх, па сутнасці, трымаецца свет, бо паняцці "хлеб", "соль", "сям'я", "радзіма", "маці", "міласэрнасць", "спагада", "пяшчота" — нязменныя і вечныя, ім няма альтэрнатывы. У чым жа заключаецца універсалізм нацыянальнай энцыклапедыі? Калі коратка (што ні ў якім разе не азначае павярхоўна і спрошчана), дык, бадай, у тым, каб змест прапанаванага артыкула, скажам, "збан" ці "імправізацыя", аднолькава задаволіў навукоўца і калгасніка, мастацтвазнаўцу і рабочага, урача і пісьменніка.

Тая прастата, натуральнасць і знешняя лёгкасць, якія падкупляюць нас у новым творы любімага аўтара ці ў паводзінах папулярнага артыста на сцэне ("а што ? і я б так змог!") — гэта не што іншае, як палон ілюзорнасці, бо мы нават не здагадваемся, якой цаной іншым разам дасягаецца гэтая самая прастата, тым не менш мы перажываем адначасова шчаслівыя імгненні ад захаплення таленавітым словам ці ігрой акцёра. Нешта падобнае адбываецца з намі, магчыма, на падсвядомым узроўні, калі мы кожны раз з задавальненнем сэрца, згараючы ад нецярпення, хапаемся за энцыклапедыю і знаходзім у патрэбным артыкуле тое, чаго нам дагэтуль вострa не ставала ў жыцці. І часцей моўчкі выказваўшы сваё задавальненне ад "знаходкі" (як проста, аказваецца!), рэдка задумваемся над тым, што стаіць за гэтымі скупымі радкамі... А стаяць, напэўна, не толькі самі па сабе час, падзеі, асобы, колькі жывыя зрухі і змены ў гэтым часе, які, як сведчыць навейшая гісторыя, аднойчы калі-небудзь усё канчаткова расстаўляе на свае месцы. Энцыклапедыст, на мой погляд, павінен валодаць не толькі дакладным зрокам і слыхам, але і інтуіцыяй, каб своечасова ўлаўліваць гэтую "канчатковасць" і фіксаваць яе для нашчадкаў, абмінаючы на сваім складаным шляху небяспечныя рыфы ўплывовасці, залежнасці ці суб'ектывізму. Адчуванне, што стваральнікі тамоў нацыянальнай энцыклапедыі ў пэўнай ступені валодаюць гэтымі высокапрафесійнымі якасцямі, не пакідае, пакуль не перагорнеш апошнюю старонку чарговага тома.

Наогул жа калі гаварыць пра такую унікальную з'яву як энцыклапедыя, то варта памятаць, што з моманту свайго з'яўлення яна спазнала эвалюцыю, адолеўшы пэўны гістарычны шлях. У старажытнай Грэцыі тэрмін "энцыклапедыя" абазначаў так званых сем вольных мастацтваў — граматыку, рыторыку, дыялектыку (ці логіку), геаметрыю, арыфметыку, музыку і астраномію. У сярэдневякой Еўропе гэты тэрмін ужывалі ў сэнсе, блізкім да паняцця "зборнік разнароднага зместу". На Русі першыя зборнікі энцыклапедычнага характару з'явіліся ў XIII стагоддзі. Пазней, у XVI—XVII стст. пашыраны рукапісныя філолага-энцыклапедычныя даведнікі, так званыя Азбукаўнікі. Найбольш вядомыя дарэвалюцыйныя энцыклапедычныя выданні — слоўнік Бракгаўза і Эфрона і слоўнік братоў Гранат.

Энцыклапедыя не абмяжоўваецца факталагічным ці апісальным характарам звестак, а канцэнтравана адлюстроўвае пэўны грамадскі светапогляд. Напрыклад, асветніцкія ідэі "Энцыклапедыі, або Тлумачальнага слоўніка навук, мастацтваў і рамёстваў" французскіх энцыклапедыстаў Д. Дзідро, Вальтэра, Ж. Ж. Русо і іншых адыгралі важкую ролю ў ідэалагічнай падрыхтоўцы буржуазнай рэвалюцыі XVIII стагоддзя.

У ліку першых універсальнымі сучаснымі Энцыклапедыямі абзавяліся такія буйныя краіны свету, як Вялікабрытанія ("Брытанская энцыклапедыя"), США ("Амерыканская энцыклапедыя"), Францыя ("Вялікі энцыклапедычны Ларус"), ФРГ ("Вялікі Бракгауз") і г.д.

У Расіі таксама з'явіліся адпаведныя выданні — "Вялікая Савецкая Энцыклапедыя" і "Малая Савецкая Энцыклапедыя" ў 10 тамах, у 1962 — ужо ў 12.

З канца 50-х — пачатка 60-х гг. падрыхтоўку і выпуск адпаведных энцыклапедычных выданняў распачалі ў Кіеве, Вільнюсе, Алма-Аце, Кішынёве, Мінску...

Мінула чвэрць стагоддзя. У свеце адбыліся значныя па тым часе змены, што карэнным чынам адбілася на палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай і культурнай сферах жыцця грамадства.

Асабліва гэта датычыла цяпер ужо, на вялікі жаль, былога СССР. Нізвергнуўшы ранейшыя ідэалы і не стварыўшы новыя, мы, па сутнасці, апынуліся на раздарожжы. У якім напрамку ісці далей? Хто вызначыць дакладныя арыенціры, каб зноў не наламаць дроў і не заблытацца? У Беларусі, здаецца, аднымі з першых сярод краін СНГ зразумелі, што словы "суверэнная" і "незалежная" толькі тады здольны нешта азначаць, калі будуць падмацаваны нароўні з нацыянальнай сімволікай і гімнам яшчэ адным атрыбутам дзяржаўнасці— нацыянальнай універсальнай Энцыклапедыяй. Крытэрый асаблівай, выключнай ролі гэтай кнігі ў жыцці грамадства — аб'ектыўная, пазбаўленая прэтэнцыёзнасці, прадузятасці і палітыканства адзнака духоўнай скарбніцы чалавецтва, у даным выпадку, зразумела, з акцэнтам увагі да Беларусі. Менавіта такі падыход да важнай дзяржаўнай справы, якую ўзвалiў на свае плечы рэдакцыйны калектыў адна- мысніка ў, які пасля П. Броўка і І. Шамякіна, думаецца, усур'ёз і надоўга ўзначаліў таксама вядомы паэт і публіцыст Г. Пашкоў, знайшоў літаральна з першых крокаў падтрымку з боку Прэзідэнта краіны. І вось на маім рабочым стале — шаснаццаты том фундаментальнага выдання... Так, ужо шаснаццаты. А калі ўзгадаць, што задумана выдаць усяго 18 тамоў, то можна з задавальненнем канстатаваць той факт, што адказная і пачэсная задача нашымі энцыклапедыстамі амаль завершана. У вытворчасці — апошнія два тамы, але вернемся да шаснаццатага, які яшчэ пахне друкарскай фарбай... Знешне ён падобны на сваіх старэйшых "братоў", аднак гэтая асаблівасць ніколькі не прыніжае яго арыгінальнасць і непаўторнасць, наадварот, мне здаецца, замацоўвае як у падпісчыкаў, так і пакупнікоў упэўненасць, што рэдакцыйным калектывам яго стваральнікаў абраны той адзіны і правільны шлях, калі нейкая альтэрнатыва і розныя выпадковасці выключаны. Гэта тычыцца не толькі вонкавага, скажам так, тэхнічнага боку справы, але і ўнутранага, звязанага з сэнсавым напаўненнем артыкулаў, даставернасцю фактаў і аб'ектыўнай адзнакай тых ці іншых падзей, з'яў і асобаў.

Чым жа адметны чарговы, перадапошні том памянёнага выдання? Думаецца, перш за ўсё варта звярнуць увагу на тое, што шаснаццаты том атрымаўся надзвычай змястоўным і адначасова кампактным, увабраўшы ў сябе каля 4 тысяч артыкулаў і болей як 1000 ілюстрацый, партрэтаў і карт (пераважна каляровых!), ахапіўшы такім чынам дыяпазон паняццяў ад "Трыпалі" да "хвіліна" ўключна.

Бездакорнае мастацкае афармленне выдання сёння, на маю думку, не мае аналагаў у кніжнавыдавецкай справе не толькі ў Беларусі, але й ва ўсіх, без выключэння, краінах СНГ.

Самы патрабавальны і пераборлівы чытач знойдзе тут рознабаковыя і змястоўныя артыкулы па такіх важкіх тэмах, як сучаснае тэлебачанне, тэатральнае мастацтва, фалькларыстыка, філасофія; цікавыя звесткі пра Туркменістан, Узбекістан, Украіну, Фінляндыю, Харватыю; пра сусветнавядомых людзей, такіх, як Тургенеў, Фадзееў, Фаворскі, Федзін, Успенскі, Фрунзе, Хачатуран, а сярод іх — беларусаў: Тураў, Уладамірскі, Улашчык, Ханок і іншыя. Безумоўна, можна бясконца называць і цытаваць тыя ці іншыя вартасці разглядаемага тома, кожны артыкул якога ўжо сам па сабе ўяўляе арыгінальную каштоўнасць. Такое адчуванне, калі разгортваеш том на любой старонцы, што трапляеш у палон дабротнай мастацкай прозы — захапляе чысціня стылю, яснасць, лаканізм, карацей, той самы выпадак, калі словам цесна, а думкам прасторна.

І апошняе. Сёння ў суседніх краінах (Балтыя, Расія, Украіна), для якіх яшчэ ўчора мы, беларусы, былі ўзорам у высакароднай справе захавання духоўнай скарбонкі народа, дык вось, сёння мы змушаны канстатаваць той факт, што нашы суседзі-краіны, спахапіўшыся, па тэмпах выдання сваіх нацыянальных энцыклапедый дагналі і перагналі нас, паколькі там гэтая справа сапраўды пастаўлена на дзяржаўны узровень. У той час як мы рыхтуемся да "фінішу" перабежкамі (маю на ўвазе перабоі з фінансаваннем). І гэта ў той час, калі ў той жа Літве выданне энцыклапедыі пастаўлена, як кажуць, на канвеер, які рухаецца бесперапынна.

Увыдавецтве, у свой час, выпрацавалася карысная практыка. Сэнс яе заключаўся ў тым, каб чарговую грунтоўную працу (як гэта было з 12-томнай БСЭ) зрабіць як мага больш даступнай для кожнага жыхара не толькі ў Беларусі, але й надаць ёй статус візітнай карткі Беларусі ў свеце. У гэтай сувязі, на базе 12-томнай энцыклапедыі ў кароткія тэрміны была створана і выдадзена 6-томная беларуская энцыклапедыя на рускай мове. Якая, дарэчы, імгненна разышлася, так што давялося тэрмінова друкаваць дадатковы тыраж, які таксама не заляжаўся на паліцах кнігарань.

Сёння, нягледзячы на няпростае фінансавае становішча, калектыў выдавецтва пры ўмове дзяржаўнай падтрымкі, думаецца, гатовы прадоўжыць гэтую карысную практыку, дакладней, у сціслыя тэрміны прадубліраваць 18-томную беларускую энцыклапедыю, скажам, 9-томнікам у перакладзе на рускую мову.

Выйграюць, без усялякага сумніву, усе: чытачы, шматлікія наведвальнікі і госці краіны, сама краіна і, у першую чаргу, яе прэстыж у свеце.

У выдавецтва, безумоўна, сёння ёсць перспектыва. Беларусаў ва ўсе часы выручала пачуццё годнасці, талерантнасці, аптымізму. Можа пагэтаму ў душы кожнага з нас, хто хоць раз у руках трымаў важкія, не для разавага прачытання, з густам афармленыя фаліянты, не застаецца месца для сумніву, што пасля выхаду апошняга тома універсальнай "Беларускай Энцыклапедыі" ў выдавецтва адкрыецца "другое дыханне", і яго калектыў яшчэ парадуе сваіх суайчыннікаў новымі унікальнымі выданнямі.

**Уладзімір ГЛУШАКОЎ**

# АНАТОЛЬ БАГАТЫРОЎ



Музычнае мастацтва Беларусі, грамадскасць рэспублікі панеслі цяжкую страту. 19 верасня 2003 года на 91-м годзе жыцця памёр народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, выдатны кампазітар Беларусі Анатоль Васільевіч Багатыроў.

Анатоль Васільевіч Багатыроў нарадзіўся 13 жніўня 1913 года ў г. Віцебску. У 1937 годзе ён скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю імя А. В. Луначарскага па спецыяльнасці "кампазіцыя" (клас прафесара В. А. Залатарова).

За семдзесят гадоў творчай дзейнасці А. В. Багатыровым напісана шмат твораў розных жанраў: оперы, сімфоніі, араторыі, кантаты, канцэрты, шматлікія харавыя, камерна-вакальныя і камерна-інструментальныя кампазіцыі. Іх адрознівае актуальнасць тэматыкі, аптымістычнасць канцэпцый, яркасць вобразных характарыстык, а аб'ядноўвае — вобраз Беларусі, інтанацыя беларускай народнай песні. Спалучэнне гераічнага пафасу, і мяккай элегічнасці, рамантычнага парыву і філасафічнасці, дасканалай кампазітарскай тэхнікі і непасрэднасці аўтарскага выказвання ўтварае індывідуальны стыль кампазітара.

Першыя буйныя творы — кантата "Сказ пра Мядзведзіху" на вершы А. С. Пушкіна і опера "У пушчах Палесся" паводле аповесці "Дрыгва" Я. Коласа — прынеслі А. В. Багатырову прызнанне і шырокую вядомасць.

У гады Вялікай Айчыннай вайны А. В. Багатыроў звяртаецца да тэмы барацьбы, высакароднасці чалавечага духу, веры ў перамогу, стварае кантаты "Беларускім партызанам", "Беларусь", "Ленінградцы".

Значнай падзеяй музычнага жыцця рэспублікі сталі творы кампазітара: опера "Надзея Дурава", кантата "Беларускія песні", "Малюнкі роднага краю", "Юбілейная", араторыя "Бітва за Беларусь", канцэрты для віяланчэлі, кантрабаса і іншыя.

Мастацтва А. В. Багатырова, яго творы ўваходзяць у "залаты фонд" беларускай музыкі, вызначаюць яе годнае месца ў агульнаеўрапейскай культуры.

А. В. Багатыроў — заснавальнік беларускай нацыянальнай кампазітарскай школы, настаўнік некалькіх пакаленняў беларускіх кампазітараў. Ён паспяхова спалучаў творчую і педагагічную дзейнасць. Шырокая эрудыцыя, добрае веданне тэарэтычных і практычных асноў кампазітарскай тэхнікі, сімфанічнага і харавога пісьма, асаблівасцяў музычнай драматургіі з'яўляюцца непаўторнымі рысамі педагогікі А. В. Багатырова. Сярод яго вучняў народныя артысты СССР і Беларусі, заслужаныя дзеячы мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

Асоба А. В. Багатырова — значная і непаўторная ў беларускім мастацтве. Яго творчая, педагагічная і грамадская дзейнасць з'яўляецца важкім укладам у скарбніцу нацыянальнай культуры Беларусі.

За высокія дасягненні ў кампазітарскай і педагагічнай дзейнасці А. В. Багатыроў быў узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, ордэнам Леніна, трыма ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнамі "Знак Пашаны", Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Дружбы народаў, многімі медалямі. Яму былі прысуджаны Дзяржаўныя прэміі СССР і БССР.

Ад нас пайшоў чалавек буйнога сусветнага таленту, вялікай душы, самаадданасці і самаахвяравання. Светлая памяць аб Анатолю Васільевічу Багатырову заўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**А. Р. Лукашэнка, С. С. Сідорскі, У. Р. Латыпаў, Г. В. Навіцкі, В. А. Папоў, А. В. Праляскоўскі, У. Н. Дражын, Л. П. Гуляка, У. В. Русакевіч, Л. С. Мальцаў, А. М. Радзькоў, У. П. Андрэйчанка, М. Я. Паўлаў, А. М. Новікаў, І. В. Катляроў, І. М. Лучанок, В. М. Елізар'еў, М. А. Казінец, М. П. Дрынеўскі, В. У. Роўда.**

# СВЯТА Ў ІНСТЫТУЦЕ ІМЯ ГЁТЭ Ў МІНСКУ

**У Доме літаратара 19—20 верасня прайшло святкаванне 10-гадовага юбілею Інстытута імя Гётэ ў Мінску. Першы дзень свята, дзень адчыненых дзвярэй, запомніўся прысутным выставай графікі С. Балянка "Няскончаны джаз" і канцэртам джазавай групы "Atava" ў складзе А. Боева, А. Каліноўскага, М. Лоскутава і К. Шывандо. Адбылася таксама прэзентацыя CD-ROMаў Другога міжнароднага тэматычнага праекта "Ілюзія адлегласці" (2000) і Трэцяга міжнароднага тэматычнага выставачнага праекта "Вокны аднаго горада" (2001—2002). Прайшла дэманстрацыя відэафільмаў аб розных выставах, якія Інстытут імя Гётэ арганізаваў у 1997—2002 гады.**

**А 20 верасня там жа, у Доме літаратара, адбылася ўрачыстая імпрэза, прысвечаная святкаванню 10-годдзя Гётэўскага інстытута. На ёй з прывітальнымі словамі і прамовамі выступілі пасол ФРГ у РБ д-р Гельмут Фрык, дырэктар Інстытута імя Гётэ ў Мінску Барбара Фрэнкель-Тонэт, намесніца загадчыка аддзела культуры Міністэрства замежных спраў ФРГ д-р Габрыэла фон Галем, генеральны сакратар Інстытута імя Гётэ д-р Хорст Гарнішфегер і інш. Пасля завяршэння ўрачыстай часткі можна было паслухаць выдатны канцэрт, складзены з твораў кампазітараў Ё.-Г. Яніча (1708—1763), Ё.-Д. Гайніхена (1683—1725), А. Вівальдзі (1675—1741), у выкананні калектыву "Камерныя салісты Мінска" (Г. Мацюкова, А. Мальцава, Ю. Герман, Г. Круглік, мастацкі кіраўнік Д. Зубаў).**

**С. Я.**

АНОНС

# ДА ДНЯ ВЫЗВАЛЕННЯ

**Новы сезон адкрывае Дзяржаўны канцэртны аркестр нашай краіны, якім кіруе маэстра Міхал Фінберг.**

**У планах на бліжэйшы творчы год пачэснае месца займаюць праграмы, падрыхтаваныя да 60-й гадавіны вызвалення Беларусі ад гітлераўскай навалы. Распачнецца юбілейны цыкл канцэртных праграм у Мінскім клубе імя Ф.Дзяржынскага. Гэты музычны вечар, які адбудзецца ў бліжэйшы аўторак, 30 верасня, прысвечаны творчасці паэта-франтавіка Міхаіла Ясеня, на чые вершы беларускімі кампазітарамі напісана нямала песень. У ліку іх — даўно вядомыя і папулярныя "Памяць сэрца", "Пісьмо з 45-га", "Здымак у газеце", "Майскі вальс" Ігара Лучанка; "Перамога", "Міласэрнасць" Леаніда Захлеўнага; "Так прышла к нам Победа" Эдуарда Зарыцкага ды інш.**

**Пачатак вечарыны а 19-й гадзіне.**

**С.ВЕТКА**

# ЗАПРАШАЕМ!

**З 1 па 3 кастрычніка ў памяшканні Музея гісторыі беларускай літаратуры ладзяцца прэзентацыі кніг з серыі "Schmerzwerk" і "Бібліятэка Бум-Бам-Літа". Адкрыецца выстава "Блазны". Імпрэзы будуць пачынацца а 18-й гадзіне. Прэс-канферэнцыя адбудзецца 1 кастрычніка ў 17.30. Адрас музея: вул. Багдановіча, 15.**

НАДЗЁННАЕ

# А ЧЫМ МЫ АДДЗЯЧВАЕМ ЛЕСУ?



"... Дзед Гарох глядзеў на дубы. Яны тут, у вячыстай дуброве, здаўна раслі, як на гонкі бор глядзячы, ад карабельных сосен узяўшы і вышыню, і чысціню ствалоў, і шатры ў іх пачыналіся высака, ажно пад самым небам, адкрываючы воку раўнюткія, нібы пад рэйку, ствалы, не ствалы, а калоны, на якіх трымалася неба".

Вось так пра Лісанскую пушчу, яе жывёльны і раслінны свет, пра людзей, што жывуць і працуюць у лесе на Пасожжы Віктар Карамазаў пісаў у прыватнасці, ў рамане "Пушча". Прызнаюся, яго кнігу я прачытаў яшчэ ў 1989 годзе, калі пашчасціла сустрэцца з пісьменнікам, (ён тады падпісаў мне яе), але і да цяперашняга часу ў маёй памяці жывуць многія радкі яго рамана, і, вядома ж, працытаваныя, напоўненыя веліччу жывой прыроды, яе хараством і прыгажосцю.

Апісанне лесу можна знайсці ў творчасці амаль што кожнага пісьменніка. Генрых Далідовіч, напрыклад, яскрава і дакладна расказаў у сваіх раманах пра Налібоцкую пушчу, Алесь Масарэнка (аповесць "На бабровых тонях") пра прыроду і лясы і маёй роднай Магілёўшчыны...

Вядома ж, у жыцці чалавека вельмі важнае месца займае лес. Дарэчы, яго агульная плошча на Зямлі складае 38 мільёнаў квадратных кіламетраў. А размяркоўваецца ён наступным чынам: Расія – 23 працэнты, Канада – 6, ЗША – 6 працэнтаў, Еўропа – 5, у астатніх жа краінах – 60 працэнтаў. Цікава, лес займае ўсяго каля 7 працэнтаў паверхні Зямлі, а выпрацоўвае ажно 50 працэнтаў кіслароду, які атрымліваецца ў яе атмасферы.

Яшчэ лес – не толькі драўніна. Лес – гэта крыніца жывіцы, арганічных фарбавальнікаў, ягад, грыбоў, арэхаў, лекавай сыравіны і шмат чаго іншага, без чаго ніяк не абысціся ні чалавеку, ні многім галінам вытворчасці.

Знаёмлюся з дакументам Еўрапейскага фонду прыроднай спадчыны. У ім адназначна гаворыцца пра тое, што стан лясоў у Еўропе пагаршаецца, прычым, катастрафічна. Гэтая высновa была зроблена пасля дэталёвага і ўсебаковага абследавання лясоў у 35 краінах кантынента. Вынік такі, напрыклад: з 558000 лісцевых і хвойных дрэваў, за якімі пэўны час назіралі вучоныя, 102800 губляюць штогод да 25 працэнтаў лісця і іголак. Інакш кажучы, амаль кожнае пятае дрэва ў Еўропе "лысее".

Асноўная прычына "аблысення" лесу, гэта – забруджванне навакольнага асяроддзя. І што характэрна, "крыніцай шкоды" лічацца не толькі дзейнасць прамысловых прадпрыемстваў, але і значнае павелічэнне "экалагічна брудных" грузавых аўтамабільных перавозак. Вядома, што ў сувязі з пашырэннем інтэграцыйных працэсаў у Еўропе аб'ём такіх перавозак рэзка вырас, у прыватнасці пасля таго, як пачалі "свабодна" перамяшчацца тавары ў рамках Еўрасаюза. Згодна згаданага дакумента, інтэнсіўны рух грузавога аўтатранспарту па еўрапейскіх краінах прывёў да таго, што ўтрыманне ў паветры такіх рэчываў, як, напрыклад, двухвокісь серы, толькі за апошнія гады павялічыўся на 12—14 працэнтаў.

Вельмі засмучае сітуацыя з лісцевымі дрэвамі. Згодна статыстыцы, найбольш трывожна ў лясах Польшчы, дзе ў дзевяностыя гады з усіх абследаваных дрэваў толькі 8,8 працэнта былі прызнаны здаровымі. У Чэхіі – 11,5, Украіне – 32,8, Латвіі – 36,2, Беларусі – 40,2 працэнтаў. Што датычыць нашай рэспублікі, то, напрыклад, гараджане, асабліва буйных прамысловых гарадоў, скажам, Мінска, Гомеля, Магілёва, бачаць, як работнікі службы азелянення амаль штогод змяняюць дрэвы на галоўных вуліцах. Тут дрэвы не могуць пражыць нават з дзесятак гадоў: іх "з'ядаюць" хімічныя элементы, што выкідваюцца ў атмасферу прадпрыемствамі, аўтатранспартам і г. д..

Між іншым, беларускі лес генерыруе 77 мільёнаў тон кіслароду і паглынае 93 мільёнаў тон вуглекіслаты. Калі браць нашы, толькі сасновыя лясы, то яны выдзяляюць тры мільёны тон фітанцыдаў, якія забіваюць хваробатворныя мікраарганізмы.

Займаючы каля 36 працэнтаў плошчы тэрыторыі Беларусі, лес, напрыклад, як матэрыял і сыравіна, забяспечвае патрэбы ўсіх галін народнай гаспадаркі, ідзе на экспарт у розныя краіны свету. Але, можа, што найважней, нашы лясы выконваюць глабальную біясферную роль, уносяць значны ўклад у экалагічную стабілізацыю Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

Што тычыцца біялагічнай разнастайнасці флоры нашай краіны, дык цікава, што яна характарызуецца 1638 відамі сасудзістых раслін, 430 відамі мохападобных, 477 лішайнікаў і звыш 2200 відаў водарасцяў. Вядома каля 1250 відаў прыдатных да яды і ядавітых грыбоў, каля 500 відаў дрэваразбураючых. Фауна налічвае 457 відаў пазванковых і каля 30 тысяч відаў беспазванковых.

Лясы Беларусі багаты каштоўнымі лекавымі раслінамі. У іх расце каля 290 відаў раслін, якія маюць вялікае значэнне для навуковай, практычнай і народнай медыцыны. Дарэчы, Беларусь – адна з краін-экспарцёраў багульніка, бадзягі, балотнай сушаніцы, талакнянкі, святаянніка і іншых раслін, якія вельмі цэняцца ў многіх краінах свету як лесасыравіна.

Словам, лес, быў, ёсць і павінен быць невычэрпнай скарбніцай прыроды. Але апошняе пры ўмове, што чалавек будзе ставіцца да яго як след. Як жа мы ставімся да яго, чым дзякуем яму?

Сёлета, напэўна шмат хто з нас, спачуваў французам, іспанцам і партугальцам. У тэлевізійных навінах мы бачылі, як у гэтых краінах пры саракаградуснай спякоце палыхалі пажары на вялізных лясных тэрыторыях. Мы бачылі, як прафесійныя пажарныя каманды, з суперсучаснай тэхнікай, а таксама іх калегі з іншых краін, якія прыехалі на дапамогу, ваеннаслужачыя, мясцовыя жыхары – супрацьстаялі агню, а ён жа ў некаторых месцах даходзіў да паселішчаў. Здаралася, знішчаў іх.

Да нас, да нашых лясоў, дзякуй Богу, у гэтым годзе прырода была літасцівай. Невялікія ачагі ўзгаранняў фіксаваліся ў асноўным авіятарамі і лесаводамі-дазорнымі часцей за ўсё вясной. Тады, больш за ўсё яшчэ ў маі, на калгасных і саўгасных палях бяздумныя "гаспадары" і дзеці-свавольнікі палілі траву, здаралася языкі полымя ахаплівалі прылескі,





а потым перакідваліся і ў лясы. І толькі чэрвеньскія дажджы змянілі сітуацыю, пра пажары ў лясах пачалі гаварыць усё радзей і радзей.

Зараз настала пара збору журавін. Яны, як вядома, звычайна растуць на тарфяніках. Менавіта ў гэты час зноў пачынаецца трывожная пара для работнікаў лесу. Тут, у балотах, пасля таго як, іх наведваюць ягаднікі і ўспыхваюць пажары патушыць якія вельмі складана: торф гарыць на вялікай глыбіні. Таму кожны лясгас яшчэ з лета гатовы да гэтага. Акрамя таго, работнікі лесу праз сродкі масавай інфармацыі, просяць людзей, якія наведваюць лес, быць асцярожнымі там з агнём. Хто прыслухоўваецца да гэтага, а хто і не звяртае ўвагі.

Вялікую шкоду лесу наносіць і засмечванне яго адпачываючымі. Шмат дзе ёсць месцы адпачынку, але яны забруджаны бутэлькамі, скрынкамі, бляшанкамі і, вядома, паперай.

Яшчэ больш забруджаны ўскраіны лясоў, якія непасрэдна прылягаюць да вёсак. У іх, звычайна, не акрэслены месцы, куды можна згружаць смецце (відаць кіраўніцтву сельскіх Саветаў не хапае часу і сродкаў зрабіць гэту "нялёгкую" справу), таму несанкцыянаваныя звалкі ўзнікаюць хаатычна па ўсіх ускрайках лесу, істотна ўскладняючы экалагічную сітуацыю. Напэўна, кожны з нас ведае, чаго "варты" вынікі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Забруджаны кожны чацвёрты гектар ляснога фонду краіны, гэта каля двух мільёнаў гектараў, з якіх больш за 200 тысяч цалкам былі выведзены з гаспадарчага абароту з-за высокай шчыльнасці радыяцыі.

Сёння навукоўцы, спецыялісты думаюць над тым, што бяроза, якую некалі работнікі лесу называлі паміж сабой лясным сметнікам (у тым сэнсе, што яе не трэба было саджаць, яна сама рассявалася), пачала сохнуць. Некалькі лясгасаў Магілёўскай вобласці (у Асіповіцкім і Касцюковіцкім раёнах) забілі трывогу: вельмі хутка пачалі сохнуць дрэвы, прычым, заўважце, не ад кораня, як гэта бывае заўсёды, а з верхавіны. Дзе і калі такое здаралася? На кары кожнага з іх вылучаецца пакуль невядомае дзёгцевае рэчыва.

Сёння масава пачаў высыхаць ельнік у Белавежскай пушчы. Прычынай гэтаму – жук караед-тыпограф (даўжынёю ў 4-5,5 мм), які вельмі хутка размнажаецца і шкодзіць ельнік на вялізных тэрыторыях. Толькі за апошняе дзесяцігоддзе было зафіксавана некалькі ўспышак масавага размнажэння караеда (у 2001 гаду ім пашкоджана больш за 100 тысяч кубаметраў яловай драўніны на плошчы 600 гектараў).

За ўсім гэтым сочаць спецыялісты і з дапамогай навукоўцаў стараюцца распазнаць прычыны хвароб. А яны, як сцвярджаюць многія, такія: меліярацыя забалочаных зямель, праведзеная ў 50—70 гады, у выніку чаго змяніўся гідралагічны рэжым глебы; кіслотныя дажджы, якія ствараюцца з-за выкідаў серы і азота ў атмасферу; глабальнае пацяпленне клімата.

Таму сёння задачай не толькі дзяржаўных прыродаахоўных структур, але і кожнага з нас з'яўляецца захаванне і паляпшэнне экалагічнага патэнцыялу, які вызначае магчымасць краіны захаваць прыродныя ландшафты і рацыянальна выкарыстаць усе кампаненты біясферы на карысць саміх жа нас і нашых дзяцей. Толькі пры такіх умовах прыродныя рэсурсы Беларусі змогуць паспрыяць пад'ёму нацыянальнай эканомікі, а таксама змогуць значна развіць прынцыпы, выпрацаваныя Канферэнцыяй ААН па навакольным свеце.

**Віктар ПАТАПЕНКА**

***Фота В. МАЙСЮКА і А. ПАТАПЕНКІ.***





## літаратурны квартал

11 верасня "Літаратурны квартал" збіраўся на чарговае пасяджэнне. Гаворка на гэты раз зайшла пра крытэрыі мастацкай вартасці твора і магчымасць аб'ектыўнай ацэнкі ў крытыцы. Тэма выклікала бурную дыскусію. У якасці эксперыменту кіраўнік суполкі Людміла Рублеўская прапанавала выказаць меркаванні пра канкрэтны твор, аўтар якога і кантэкст напісання засталіся для ўдзельнікаў эксперыменту невядомымі. Меркаванні атрымаліся ўражвальна супрацьлеглымі.

Вядома, чыталіся і новыя творы кварталаўцаў, праўда, на гэты раз не ўсе парадавалі "навінкамі". А спрачаліся, і чыталі і слухалі на гэты раз Усевалад Гарачка, Аксана Бязлепкіна, Таццяна Вабішэвіч, Віка Трэнас, Ліка Волкава, Ганна Серахан, Вольга Якубоўская, Людміла Слівінская, Іна Каляда, Наталля Кучмель, Серж Мінскевіч, Андрэй Ключнікаў, Марыя Шамякіна, Валянціна Гарністава, Рагнед Малахоўскі, Аксана Спрынчан і Вадзім Клімовіч.

Суполка "Літаратурны квартал" збіраецца шточацвер а 18 гадзіне ў памяшканні рэдакцыі.

**ФЕСТЫВАЛІ**

# НІХТО НЕ ЗАСТАЎСЯ З НОСАМ




**НА ЗДЫМКУ: прадстаўнік студыі "Млын" (г. Санкт-Пецярбург) В. Кудзеліна з Гран-пры фестывалю.**

20 верасня ў Магілёве завяршыў сваю работу VI Міжнародны фестываль анімацыйных фільмаў "Анімаёўка—2003". Сёлета мульцікі паглядзелі (а іх было прадстаўлена 35 у конкурснай праграме і 150 — па-за конкурсам) звыш 8 тысяч дзяцей і не толькі ў Магілёве, а яшчэ ў васьмі раённых цэнтрах.

У гэтым годзе Гран-пры фэсту — "Крыштальны аповак" быў прысуджаны расійскаму поўнаметражнаму анімацыйнаму фільму "Карлік нос" (рэжысёр І. Максімаў). "Крыштальныя апоўкі" атрымалі таксама рэжысёры Роза Сціебра (Латвія) у намінацыі "Прыз майстру", Іван Максімаў (Расія) у намінацыі "За лепшую рэжысуру" (фільмы "Маруднае бістро"), а таксама калектыў рэжысёраў-аніматараў студыі "Шар" у намінацыі "За лепшую праграму для дзяцей". Дыпломам фестывалю "За ўкараненне камп'ютэрных тэхналогій" была ўганаравана беларускі рэжысёр-аніматар Алена Пяткевіч ("Песенька для канарэйкі").

Трэба адзначыць, што ўпершыню за гісторыю "Анімаёўкі" ў лік інфармацыйных спонсараў трапіў і штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" (нататкі пра фестываль чытайце ў наступным нумары).

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

просіць прабачэння і на каленях вымольвае не кідаць яго/яе. Жаночае сэрца не камень. Але доўга тое цягнуцца не можа. Нона хоча нармальных (традыцыйных) адносінаў паміж жанчынай і мужчынам, дзяцей, урэшце. Юрык ёй надакучвае, становіцца непатрэбным, яна ў ім расчаравалася. Вядома ж, дзве бабы кіраваць разам не могуць. Камусьці прыходзіцца саступіць, падпарадкоўвацца. Юрык, як невыносны цяжар, застаецца ззаду. На гэтым аповесць і заканчваецца.

3. Дудзюк узяла для твора арыгінальную праблему і паспрабавала (ці ўсёр'ёз?) яе вырашыць у сямейна-бытавым рэчышчы. Можа быць, не столькі і вырашыць, як змадэляваць у якасці магчымай, паказаць наступствы палавых выбрыкаў сучаснасці. Відавочна, што будаваць сямейнае жыццё складана, узнікае шмат дробязных непаразуменняў і г.д. Гэта ў сям'і традыцыйнай, так бы мовіць, арыентацыі. Часам з нармальным чалавекам немагчыма жыць. А што ўжо казаць пра розных транссексуалаў-вычварэнцаў. Адсюль і праблемы. Найперш маральныя. Такая ідэя аповесці, па-мойму. Але я не ўпэўнены на ўсе 100 працэнтаў, што яна там ёсць увогуле...

Што цікава, дык гэта адсутнасць канкрэтнага часу, калі адбываецца дзеянне ў творы. На тое нічога не ўказвае. Можа, толькі ўскосна. Гісторыя магла адбыцца літаральна сёння, а магла і пяць гадоў таму.

І яшчэ некалькі "шпілек". Мне, як даволі цікаўнаму чытачу, а ўжо пасля і як дамарошчанаму прыдзірліваму крытыку, хацелася б ведаць вось пра што. Пра дэталі, калі канкрэтней. Справа ў тым, што Юрыку і Ноне ўдавалася займацца... каханнем. Праўда, толькі спачатку. Нона не змагла (?) адразу выявіць штучнасць сексу: "Як яму ўдавалася падманваць мяне па начах? У нас жа ўсё было...". Сапраўды — як??? З. Дудзюк раскрывае карты наступным чынам: з джапамогай "кавалку пластыку, абмотанага бінтам і абцягнутага прэзерватывам". Ого! А чаму, скажам, не кавалку арматуры, знойдзеным на будоўлі, дзе праходзілі маладыя універсітэты пісьменніцы? Вакол жа валялася столькі шархаватага жалеззя! Я не ўяўляю працэс, як незаўважна з такою адмысловаю прыладаю (няйнакш рацыяналізатарскае вынаходніцтва З. Д.) можна "ноччу выконваць ролю мужа". Хіба калі ў шапцы-вушанцы, нацягнутай на самыя вочы...

А дзе бралі грошы Юрык з Нонай, калі раз'язджалі па Мінску і Маскве, каб зрабіць нятанную па сённяшнім часе аперацыю па змене полу? Прыгадаем, што Юрык — звычайны фельчар "хуткай дапамогі", а Нона — бібліятэкар у нейкім райцэнтры. А бацькі іхнія — яўна не мільянеры. Нестыкоўка атрымліваецца.

Аповесць Зінаіды Дудзюк "Пакаранне для Ноны" высвечвае новыя падыходы да раскрыцця маральных праблем сучаснасці, у прыватнасці, да юрлівага жаночага кахання, якое, па законе подласці, прыходзіць ужо запознена, на схіле гадоў. Калі толькі і застаецца што забаўляцца "арматурнымі" свавольствамі.

**Сяргей ГРЫШКЕВІЧ**

---

Уменне карыстацца кантрастам — адзін з наймоцных бакоў яго таленту. Ён і ў жыцці такі "перапялёсы" — упарты і памяркоўны, шчодры на спагаду і скупаваты на шчырасць...

Ён — самотнік. На людзях, праўда, ён уражвае жыццядайнай энергіяй. А на адзіноце... Пра тое, які ён сам-насам з адзінотай, могуць расказаць толькі вершы.

Ён — максімаліст. І таму заўсёды бездакорна дакладны, як і кожны мастак. Творчай неахайнасці, бяздумнасці не цярпіць прынцыпова. Ён, у адрозненне ад некаторых іншых творцаў, думае, дбае пра чытача. Яго паэтычны ідэал — верш-падзея, верш-адкрыццё. І толькі так, бо вершы расказваюць пра самае галоўнае, пра тое, што не дае быць такім, як усе "нармальныя" людзі...

*Каб стаць паэтам,*
*трэба быць*
*хоць крыху незямным.*
*І тады ў звычайным свеце*
*ты адчуеш нязвыклае:*
*у салаўіным пошчаку —*
*біццё сэрцаў закаханых,*
*у пералівах світанкавых росаў —*
*бляск вачэй закаханых,*
*у пераззоне ручая —*
*галасы закаханых...*
*Толькі трэба быць*
*хоць крыху незямным!*

Я спрабаваў дазнацца: што для яго паэзія? Пераадоленне пакутаў душы? Імкненне спасцігнуць гармонію? Яшчэ адзін сродак самасцвярджэння? Ён некалькі разоў спрабаваў патлумачыць. Толькі дзе ж ты раструмачыш Паэзію.

Але я ведаю: паэзія для яго — жыццё. Творчасць для яго — бясконцае прагнае наталенне словам.

**Сяргей УКРАІНКА**

---

СЛОВЫ ПРА СЛОВЫ

# ПРА ГЛОБУСА АДАМА

*"Ісці ўздоўж вялікай вады —*
*гэта нашае, гэта любіў тата,*
*люблю я і любіць брат."*
(Адам Глобус)

Жывы, жорсткі, магчыма, нават праўдзівы, але, безумоўна, па-мастацку ўтрыраваны тэкст Адама Глобуса "Брат" чытаўся мной як ні дзіўна без асаблівага раздражнення. Я ведаю, што ў А.Глобуса шмат зайздроснікаў і ненавіснікаў. Пэўна ёсць і прыхільнікі. Я ж адзін з тых, хто ставіцца да яго нармальна, гэта значыць, спрабую яго зразумець такім, які ён ёсць. У памянёным тэксце А.Глобус не столькі вымалёўвае вобраз свайго брата Мірыка (Міраслава Шайбака), як дадае невядомыя мне дагэтуль штрыхі да ўласнага партрэта. Бо "малюючы" брата "по образу и подобию своему", нельга, нават з "дапамогай" братоў Ван Гогаў, выштукаваць яго так, каб наш чытач "купіў" яго як японскі мільярдэр Вінцэнтаў "Партрэт доктара Гашэ" за 82,5 мільёны долараў (праўда, і зборнік Басё ў перакладах Мірыка прадаваўся ў Маскве па цане двух залатых пярсцёнкаў)... Найперш трэба адзначыць высокае літаратурнае майстэрства А.Глобуса, які, падчас, можа адным сваім графічным безапеляцыйным штрыхам "нанесці" сакрушальную альбо халодна-гранітную характарыстыку як свайму герою, так і яго апанентам...

Дарэчы, у літаратурным тэксце вельмі шмат увагі нададзена лічбам (пачынаючы ад 7, 10, 11, 13-ці і далей аж но да сотняў тысяч). Наўрад ці гэта нейкая аўтарская магія альбо жарсць, хутчэй за ўсё — чыстай вады бухгалтэрыя, звычайны прагматызм (7 — гэта столькі маскоўскіх перавыданняў вытрымаў ужо ўпомнены вышэй зборнік перакладаў Басё ў перакладах М.Шайбака: *"там нейкі майстра зрабіў для таго зборніка вокладкі з цялячай скуры і каробку з дрэва, абклеіў каробку ядвабам і дарагой паперай"* (а ці выдаваўся ён па-беларуску ў Мінску?); 10 — гэта столькі кіламетраў у дзень прабягае Мірык *"па трэнажорнай дарожцы, бо можа сабе дазволіць мець у кватэры спартовую залу"*; *"11 словаў дастаткова, каб збудаваць выразны сказ.* Кожны (Глобус і Шайбак — **Л.Г.**) *паабяцаў штодня пісаць не меней за 11 беларускіх словаў"* (цікава, а колькі тысяч рускіх слоў штодня друкуецца ў выдавецтве "Сучасны літаратар"?); 13 — гэта столькі слоў было ў першым мінскім графіці (паверым на слова), якое Мірык са сваім сябрам Сашам у 1984 годзе напісалі на бетоннай набярэжнай Свіслачы: *"Краіна ў кратах"*; усе далейшыя лічбы можна вызначыць у матэрыяльным эквіваленце...)

Пасля лічбаў — *да братняй характарыстыкі.*

Не ведаю з якой такой прычыны Адам Глобус хацеў запапохаць чытача праз мернай жорсткасцю свайго брата. Вось толькі некалькі амаль "хічкокаўскіх страшылак":

*"У кожнага ўзнікае жаданне пабіць твар сабепадобнаму. І раней ці пазней абставіны складаюцца на тое каб злосць увасобілася ў бойку. (...) Удар, які Мірык абрынуў на тоўстае дзвярное шкло каштаваў яму шмат. Шкло разляцелася на аскепкі, але і кулак ператварыўся ў крывавую кашу";*

*"Ягоныя кватэрныя дзверы мы падперлі драўляным брусам, каб не выскачыў. Бутэльку з бензінам кідаў я. Калі б кідаў Мірык, напэўна, пацэліў бы ў шыбу, а я расхваляваўся і ўпіндзюрыў у раму і край сцяны";*

*"Мірык — звер! Так, так... Мірык — звер! І я яго паважаю..." — так разважаў настаўнік біялогіі Карпейчык";*

*"Калі хто любіць па-сапраўднаму зброю ў нашай сям'і, дык гэта брат. (...) З пісталетам у кішэні Мірык хадзіў па кватэры, дзе гулялі ў карты на грошы";*

*"На чорта мне ружжо?! Я і так любога харка голымі рукамі задушу, а калі не змагу — ты дапаможаш...", — так разважаў брат, п'ючы чорную гарбату з японскага кубка. "Харка задушыць? Канечне дапамагу, няма пытанняў";*

*"Забіраць жыццё ў гадаў Міраслаў навучыўся хутка і робіць гэта па-майстэрску"* (у раздзеле, адкуль узятая цытата, рэч вялася пра куслівых насякомых тыпу пчол, вос, чмялёў і шэршняў; дарэчы, цытуючы ў папярэднім сваім тэксце словы В.Адамчыка пра тое, як ягоны ўнук Чэсік засадзіў у пластыкавую бутэльку зялёнага коніка, я забыў дадаць, што Чэсік сын М. Шайбака);

*"Біццё скаціны — работа цяжкая, жывое-маладое паміраць не хоча, супраціўляецца, рвецца, трапечацца... (...) За месяц брат так прапах водарам жывёльнай смерці, што вясковыя сабакі, толькі ўчуўшы яго, змоўкалі, падціскалі хвасты і хаваліся ў будкі";*

*"...бізнес ёсць бізнес, і надыходзіць момант, калі хочацца набыць пісталет і зняць праблему. Каб не набываць зброю, каб не выкарыстоўваць кулак, даводзіцца павышаць голас. (...) Важна, што брат умее крычаць да страты свядомасці".*

Ну, не перакладчык Басё перад намі, а супермэн, гангстэр-мафіёзі Аль Капонэ! Да месца тут успомніць і назву колішняй маладосцеўскай кніжкі А.Глобуса "Смерць-мужчына". Які, заронены на перспектыву, сімвал! (Чуў, што адзін пакрыўджаны літаратар, пасля прачытання дзённікаў Вячаслава Адамчыка ў "ARCHE", напершапачатку грозіўся надаваць добрых кухталёў іх публікатару Адаму Глобусу, але, ахаладаўшы, раздумаўся: гэты й кілера наняць можа... Я ж, уявіўшы перад вачэй вобраз Міраслава Шайбака, калісьці з душой выпісаны яго братам, падумаў іначай: *а навошта Глобусу яшчэ на некага траціцца?!*)

Хочацца верыць, што іранізую, прыпамінаючы як сказаў адзін класік пра другога: *"Он пугает, а мне не страшно"...*

І ўсё ж, якая была задача ў аўтара, каб гэтак "непрыўкрасна" выпісаць роднага брата, з якім ён не хоча, каб яго пасварыў нават сам Бог? На маё не цвёрдае меркаванне, гэта свядома прадуманы метафарычны алагізм з разлікам здзівіць чытача на супрацьходзе абрыдла-звыклага мыслення — гульня ў класікі наадварот, дзе не важна *якім метадам*, а важна *што* ў выніку... Мажліва, хто з чытачоў на такі "адваротны эфект" ад прачытання і "здзівіўся"...

Толькі не я, бо, хоць і вельмі даўно ўжо не меў з Міраславам Шайбаком аніякіх кантактаў, а ўсё ж не думаю, што чалавек так кантрастна змяніўся за якіх дзесяць гадоў. А памятаю яго — па колішнім сваім тэлевізійным інтэрв'ю з ім на пачатку 90-х — выхаваным, інтэлігентным і разважлівым чалавекам...

Безумоўна, я веру, што грошы могуць змяніць характар чалавека, як і чалавек можа змяніць свае адносіны да грошай, але наколькі ж



значнымі павінны быць тыя змены, каб адно замяніла сабой другое дарэшты? Дзякаваць Богу, у дадзеным выпадку да гэтага яшчэ далёка...

Бо ўсё ж робяцца, як бы між іншым, і добрыя справы. Скажам, *"Брат падараваў людзям пяць кватэраў"* (падараваў, спытаем, проста так, ад празмернасці пачуццяў?! Але ж такіх бізнесоўцаў не бывае — яны хутка прагараюць).

Сустракаюцца ў тэксце і спрэчныя сямейныя непаразуменні. Да прыкладу, А.Глобус у раздзеле "11 словаў" піша пра сваё негатыўнае стаўленне да эміграцыі і беларускіх эмігрантаў: *"Мярзотныя настроі выклікаюць яшчэ і бясконцая чарада ўцёкаў на эміграцыю беларускіх палітыкаў, літаратараў, мастакоў, журналістаў, студэнтаў... Іх кволыя артыкульчыкі, нашрайбаныя за жменьку цэнтаў дрыжачай рукою, не могуць выклікаць нат спачування".*

А вось бацька, Вячаслаў Адамчык, у "ARCHE" піша зусім іншае: *"Гутарка з Валодзем: нам усім трэба думаць пра эміграцыю. Сітуацыя вымагае. Жыць у бяспраўнай краіне немагчыма. Міраслаў, збіўшыся з толку, прапанаваў Лондан. Валодзя — Вільню, я — Беласток".*

Зрэшты, дзень на дзень не прыходзіцца, здараюцца ў людскім жыцці і форс-мажорныя сітуацыі...

Агулам не правакацыі даймаюць мяне ў Глобуса, а яго відочная аўтарская самаўпэненасць, блізкая да аскетычнага самалюбавання. У яго творах, на жаль, адсутнічае такі неабходны элемент мастацкай творчасці як сумненне, на хісткасці якога, як на арэлях, чалавек падае і ўздымаецца, падае і ўздымаецца, захоўваючы раўнавагу паміж жыццём і смерцю... Адам Глобус увесь час толькі ўздымаецца... Ні нам, ні, бадай, яму самому пакуль невядома, ці зможа ён падняцца наноў, калі ўсё ж аднойчы не ўтрымаецца на вышыні...

І ўсё ж творчасць яго не пакідае мяне абыякавым. Яна не ўпісваецца ў "пракрустава ложа" беларускага пісьменства і найперш тым і выбітная — сваёй адрознасцю, неардынарнасцю і самасцю. Ды і сам аўтар — літаратар адукаваны, дасведчаны і прагматычна мыслячы. Любім мы яго ці не любім — гэта нашы, а не яго праблемы. Свае ён вырашыць сам. Не памятаю кім сказана: "чалавек — гэта стыль". Дык вось, Адам Глобус — гэта да ўсяго яшчэ і своеасаблівы стыль літаратурных паводзін у сучасным беларускім пісьменстве.

Такі ёсць.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# «НЁМАН» У IV КВАРТАЛЕ

У кастрычніку — снежні гэтага года часопіс "Нёман" выносіць на суд чытачоў аповесці Фёдара Конева "Страстей обитель", Лідзіі Арабей "Горькие ягоды", Валянціны Кадзетавай "Жертвы", Юрыя Фатнева "Неисторическая фамилия". Сярод малой прозы — апавяданні і навелы Ніны Маеўскай, Анатоля Крэйдзіча, Васіля Ткачова, Ніны Пракопчык. Усе згаданыя творы вызначаюцца пэўнай адметнасцю, стылёвай і жанравай разнастайнасцю. Агульнае ў іх, бадай, адно — багатая на падзеі, характары, нечаканасці наша сучаснасць, тая вялікая, магутная і несупынная плынь, якую мы называем яе вялікасцю Жыццём.

У рубрыцы "Впервые в "Нёмане" з новай тэмай для беларускай літаратуры, тэмай карэйскай вайны дэбютуе Уладзімір Зайцаў. Яго "гарачы", дэталёва выпісаны аповед мае назву "Мгновения войны".

Паэзія ў чацвёртым квартале будзе прадстаўлена нізкамі вершаў Яўгеніі Янішчыц, Казіміра Камейшы, Уладзіміра Марука, Алеся Бажко, Андрэя Скарынкіна, Міколы Бусько, Валерыя Грышкаўца, Генадзя Аўласенкі, Марыны Нікіфаровіч, Рыгора Сарокі. У рубрыцы "Впервые в "Нёмане" дэбютуюць Дэльфіна, Лілія Рэўко, Таццяна Лебедзева, Міхаіл Барздыка, Леанід Мацюхін. У кожнага паэта ёсць што сказаць сягоняшняму чытачу, ёсць чым закрануць яго самыя глыбінныя струны...

ISSN 0130-7517

НЁМАН

10'2003

ФЕДОР КОНЕВ
Страстей обитель. Повесть

ЛИДИЯ АРАБЕЙ
Горькие ягоды. Повесть

ЕВГЕНИЯ ЯНИЩИЦ
Последняя любовь. Стихи

ВАЛЕРИЙ ГРИШКОВЕЦ
Из цикла "Бюро находок"

ФЕЛИКС МЫСЛИЦКИЙ
Кому язык небесный дан. Стихи

ДЕЛЬФИНА
Храм любви. Стихи

Як і ў папярэдніх нумарах, вялікая ўвага надаецца публіцыстыцы, публікацыям на тэмы палітыкі, эканомікі, навукі, гісторыі, мастацтва, культуры. Сярод гэтых матэрыялаў варта вылучыць артыкулы Эдуарда Скобелева "О новейших задачах художественной литературы", Генадзя Сахарава "Малый бизнес как зеркало национальной идеи", Льва Крыштаповіча "Общерусские корни белорусской народности", Валерыя Яравенкі-Рытэра "Ненаглядность мыслимого...", Уладзіміра Антонава "Homo sapiens или Homo videns?", Валерыя Грышкаўца "Из цикла "Бюро находок", Уладзіміра Макарава "Консциентальное оружие: вызов нового тысячелетия?", Барыса Беляжэнкі "Голос из "резервации", Валянціна Маслюкова "Звуки лиры и трубы или Балет как формула чувства" і інш. Упэўнены, усе яны з вялікай цікавасцю будуць успрыняты нашымі чытачамі.

Літаратуразнаўства і літаратурная крытыка таксама ў цэнтры ўвагі рэдакцыі часопіса. Будуць прапанаваны грунтоўныя артыкулы Пятра Каракі — "А.П. Чехов — певец русской природы", Валянціны Локун — "Иван Шамякин: в поисках нравственного идеала", Сцяпана Лаўшука — "Андрей Макаенок: личность и судьба", Васіля Макарэвіча — "И обходя моря и земли..." (аб лірыцы Анатоля Лук'янава), Валянціна Лукшы — "Жизнь высокой пробы" (да юбілею Алеся Савіцкага), Мікалая Сердзюкова — "Два романа эпохи перемен", іншыя матэрыялы, а таксама рэцэнзіі на кнігі Віктара Гардзея, Івана Капыловіча, Янкі Лайкова, Таццяны Сівец, Віктара Вабішчэвіча...

Не застанецца па-за ўвагай і рубрыка "Из почты журнала" з допісамі чытачоў, якія ўздымаюць найбольш цікавыя і вострыя пытанні і праблемы нашай рэчаіснасці.

Міхась ПАЗНЯКОЎ



**Яўген МІКЛАШЭЎСКІ**



•

*Каласы пад сярпом тваім...*
У. Караткевіч

*Каласы пад сярпом тваім*
*Не спрадвечны твой скарб,*
*народ?*
*Ты не жаў сярпом залатым,*
*Ды збіраў залаты ўмалот.*

*Ды чаго ў жыцці ні было!*
*Колькі засух — столькі ж*
*залеў.*
*Ці гарэла ці ўсё гніло —*
*І твой серп тады іржавеў.*

*Ты пад плотам жаў крапіву,*
*Але кідаў зерне ў зямлю.*
*Ты казаў: "Дасць Бог —*
*пражыву:*
*Не сярпом — касой зараблю".*

*І збіраўся ў хмару твой пот,*
*І грымотным гулам яна,*
*Абяцаючы шчодры год,*
*Выпускала з рук Перуна.*

*Ён раскідваў стрэлы свае —*
*І агонь абвіваў твой дах.*
*Гінуў скарб апошні, але*
*Палавелі жыты ў палях.*

•

***Я любитель старых тополей.***
Забалоцкі

*Не сябрыны, шумных застолляў,*
*Да якіх не страчаны след, —*
*"Я аматар старых тапаляў", —*
*Не адзін паўторыць паэт.*

*Я аматар замкавых паркаў,*
*Пракаветных паркавых дрэў,*
*Дзе крумкач утрапёна каркаў*
*Перад тым, як палац гарэў.*

*Я аматар даўніх традыцый*
*У гаротным людскім жыцці.*
*Хлюпаціць капеж на Грамніцы —*
*Будзе ў маі трава расці.*

*Я аматар, прыхільнік даўні,*
*Традыцыйнага ўкладу жыцця...*
*Што народ у спадчыну*
*даў мне —*
*Гэта вечная Кніга Быцця.*

•

*Сказала мама: "Заўтра —*
*сеўна..."*
*Якое слова, Божа мой!*
*І ў твар палеткі неспадзеўна*
*Дыхнулі восеньскай смугой,*
*Сваёй журбою векавой,*
*Калі сказала мама: сеўна.*

*Хлапчук трынаццацігадовы,*
*Я пакідаў сяброў і луг,*
*Дзе вёска пасвіла каровы.*
*І пачынаў асвойваць плуг,*
*І з баразной за кругам круг*
*Рабіў, як сейбіт адмысловы.*

*Як гаспадар, ішоў за плугам.*
*Сяўбы вясновай вестуны,*
*Услед за мной вароны цугам*
*Даніну бралі з баразны.*
*А быў я ростам роўны*
*з плугам:*
*"Давай!" — крычалі мне яны.*

•

*Неба выплакала вочы,*
*Хмура гледзячы на свет.*
*Распагодзілася — ночы*
*Пасвятлелі неўпрыкмет.*

*Адыходзячы, нягода*
*След свой выцерла са шкла,*
*І зямля да свята года*
*Рыхтавацца пачала.*

*Ды якое ж свята гэта,*
*У кастрычніку прытым?*
*Гэта — бабінае лета*
*З лістападам залатым.*

*Усміхнуўшыся, прырода*
*Неба высініла зноў,*
*І з'явілася нагода*
*Пашукаць вясновых сноў.*

*А як замаразак першы*
*Раптам выбеліць зямлю,*
*Дам адбіцца ў светлым вершы*
*Заінеламу галлю.*

*Пазваню на шклінках тонкіх*
*І са слоў, як з васількоў,*
*Свежых, чыстых, лёгкіх,*
*вонкіх*
*Напляту табе вянкоў.*

•

*Я шукаў таго, чаго няма.*
*І няма, і нават быць не можа.*
*І штодня з малітвай нездарма*
*Не звяртаюся да Маці Божай.*

*Дык чаго ж прыйшоў*
*я ў гэты свет,*
*Па чыім таемным даручэнні?*
*Чалавеказнаўства —*
*той прадмет,*
*Што прыносіць толькі*
*засмучэнні.*

*Я хачу спасцігнуць сэнс жыцця,*
*Ды, відаць, іду не ў тым кірунку.*
*І за крок адзін да адкрыцця*
*Не знаходжу ад журбы*
*ратунку.*

*Што ні з'ява — парадокс, абсурд.*
*Барацьба стыхій — яшчэ*
*не Вечнасць.*
*Варагуе чалавечы Гурт —*
*І жыццём кіруе Недарэчнасць.*

---

**Марына ГАРЭЛАВА**

•

*Між дубчыкаў старой мятлы —*
*кветка,*
*Юная і пяшчотная.*
*З раніцы двор падмяталі.*
*Усім не хапае месца ў вазах.*

•

*Жорны гісторыі перамалолі горы.*
*Яшчэ ўчора ты ніяк не мог*
*Да іх дацягнуцца,*
*А сёння твой унук*
*У пясочніцы*
*Будуе з іх гарады.*

•

*Пясочны гадзіннік*
*Пастаянна перакульвае*
*Рука чалавека,*
*Каб ён не спыніўся.*
*Час мае патрэбу ў нас.*

•

*Вароты рая*
*Расчыніліся са скрыпам.*
*Няма каму змазаць:*
*Усе адпачываюць.*

•

*Пасля доўгай зімы*
*Сонца сагрэла*
*У сваіх далонях зямлю,*
*І зямля праслязілася ручаямі.*
*Усім хочацца цяпла і ласкі.*

**Любоў СЕМЯНОВІЧ**

## НЕ АДЛЯТАЙ

*Не адлятай, мой вецер*
*легкакрылы.*
*Яшчэ хвілінку побач пакружы.*
*Дазволь ляцець з табою,*
*вецер мілы,*
*І ўзрост адчуць, як стан душы.*

*Мне б прычасціцца светласцю*
*тваёю.*
*З табой узняцца пад адным*
*крылом.*
*Так лёгка і свабодна над зямлёю*
*Кружыць неспадзяваным,*
*добрым сном.*

*Час вымалю спыніцца хоць*
*на трошкі,*
*З'яднаюся з бязважкасцю гадзін,*
*Каб цалаваць вачэй тваіх*
*валошкі*
*І зноў шаптаць: "Не адлятай*
*адзін".*

## ЧАКАЙ, МАТУЛЯ

*Забыўшыся, гляджу на гэты снег.*
*А ён, і сапраўды,*
*бялютка-белы.*
*Прыгадваю матулю, нібы ў сне.*
*Як, дарагая, жыць яшчэ хацела.*

*А гэты снег, як саван.*
*Белы, белы.*

*Дзе цішынёй замецена дарога,*
*Чакай мяне, матуля.*
*Доўга, доўга.*

## СПЫНІЎСЯ ЧАС

*Яшчэ не адцвілі мае валошкі.*
*І часам радасць хмеліць галаву.*
*Спыніся, час, на ўздых адзін,*
*на трошкі,*
*Каб зноў адчуць змагла я,*
*што жыву.*

*Я, я жыву, не існую, і чую,*
*Як шэпчуцца над рэчкай*
*туманы,*
*Як грае жнівень песню залатую*
*І звоняць снежня белыя званы.*

*І бачу, што каляднік*
*зацвітае, —*
*Ён столькі год не ажываў,*
*не цвіў.*
*Мой кожны верш валошкай*
*прарастае,*
*Маленькай кветкай між*
*высокіх ніў.*

ПРОЗА

# ПРА ЖЫЦЦЁ, СМЕРЦЬ І КАХАННЕ

Леанід МАРАКОЎ



## ДАРАГОЕ ЖЫЦЦЁ

Сястрычкі-блізняткі былі юныя, як майская раніца, чароўныя, быццам казачныя феі, і дарагія, як Жыццё. Менавіта так. Бо "дарага, бязмерна дарага, — нашэптвала прадчуванне, — абыдзецца табе з Сашкам начная з феямі прагулка". Прыгажуні пад раніцу юркнулі ў вакно бацькоўскае хаты, а кавалераў, вядома, не запрасілі:

— Да суботы, салдацікі, усё было так цудоўна!

Мясцовыя героі сустрэлі няпрошаных ухажораў маўклівым аглядам-канстатацыяй, але задоўжаную паўзу парушылі першыя.

— Любіш катацца? — падаў голас высачэзны, пад неба, у папугайнай кашулі, відаць, галоўны з іх, тыкаючы ў мяне пальцам. — Любі і саначкі цягаць!

Сашка — малайчына, адразу змікіціў: большага па сіле праціўніка можна адужаць толькі нечакана ўгрызаючыся яму ў горла. І першы кінуўся ў атаку. Рэмень вінтом верталёта засвістаў над ягонай пілоткаю, і гэтым адразу адцягнуў на сябе трох.

Двое астатніх, наўздзіў, не разгубіліся — рванулі да мяне.

— Н-а-а!

— Д-а-ай! — ашалела, разрываючы лёгкія, маё сэрца.

Закружыўся млын з рук і ног.

Усе забыліся пра дарагое Жыццё. Зараз яно нічога не каштавала.

— Ку-ка-рэ-ку-у! — звонка і проста ў душы заверашчаў певень.

Нехта ў гэту цёплую сонечную раніцу чуў яго апошні раз.

*

Сашка не быў цяжкавагавікам і я лёгка ўзваліў сябра на плечы. Да часці напрасткі праз лес — з гадзіну хады, і з перадышкамі да пад'ёму паспею. Калі дадуць перадыхнуць. Чатырох мы палажылі, але той, пад неба, што разбіў Сашку галаву, пабег прывесці падмогу. Прывядзе, дык аддыхацца не дадуць. Не дадуць.

Нічога, як-небудзь дачыкільгаем. І не з гэткага калаўрота выбіраліся. Ты, галоўнае, Санёк, трымайся! За мяне трымайся, не вешай галавы. Дыхай, як я дыхаю. Як паравоз дыхай...

А цяпер — цішэй, дружа, цішэй. Прытрымай дыханне. Паберажы сілы, а заадно — і нашыя жыцці. Няхай хлопцы бягуць сабе міма, няхай бягуць.

Ну, не стагні, Санёк, не стагні, дарагі. Не вытрывае твая разбітая галава калоў, якімі мясцюкі неўтаймоўныя на бягу размахваюць...

Бачыш, хлопчыкі спыніліся, прыслухоўваюцца? Ну, не стагні, родны.

*

— Навошта валок? — азадачыў Сашка. — Без мяне не дагналі б і жыў бы сабе, не тужыў. Можа, доўга-доўга жыў бы.

Сашкава магіла была побач з маёю, і я добра чуў сябра.

— Такія, як я, доўга не жывуць. Так што — усё нармальна, Санёк, усё правільна.

— Эх, братка! — уздыхнулі.

— Загадвай жаданне! — разышоўся Сашка.

— Да феяў! — бухнуў я.

— Толькі дачакаемся месяца! — падхапіў Сашка.

— Як жа без яго! — згадзіўся з сябрам.

Ён яшчэ доўга захлынаўся ад смеху:

— Ха-ха-ха, ха-ха-ха!

І не толькі ён.

## БЛІЗНЯТЫ

Муж і каханак былі братамі-блізнятамі, але зразумелі гэта за нейкую хвілю, як забілі адзін аднаго.

Новы партнёр удавы, калі чуў слова блізняты, сутаргава сплёўваў і жагнаўся. Але знайшоўся брат і на яго: брат удавы. Ён не стаў чакаць, пакуль нажытае бацькам дастанецца новаму лавеласу.

На пахаванні забітага брат не суцяшаў сястру, не ліў слёз спачування: ён ляжаў побач, у такой самай труне.

"Не ведаю, — казала яна следчаму, — навошта ім спатрэбілася знішчаць адзін аднаго?"

## ПАРТРЭТ

Вось вы — мастак, малады, таленавіты, смелы, дзёрзкі. Гэтак жа смела і дзёрзка вы забілі сваю багатую, у гадах, што вечна павучала вас, жонку. А перад тым, заўважым, паспелі намаляваць яе амаладжаны партрэт-камплімент (адзін з першых падарункаў — а як жа інакш да старой мымры падлабуніцца?). Ён і цяпер вісіць у спальні. Цудоўна прамаляваны, ваш ганар, адна з першых удач. І здымаць яго вам зусім не хочацца. Ды й пасля дзірку ў сцяне заштукоўваць.

І вось — вы вольны шляхціц, забяспечаны, у росквіце сілаў: самы раз пажыць дзеля ўласнае насалоды.

І вы запрасілі яе — маладую, прыгожую, амаль, як і вы, пачаткоўку. І яна здзейсніла любоўны цуд, і вы — ля ейных ног. І ўсё як найлепш: воля, каханне, шчасце. І яна — такая спакусніца-чараўніца.

Але гэта для вас усё як найлепш. Для яе ж усё выглядае інакш: ёсць грошы, але як бы не зусім ейныя, ёсць віла, але як бы зусім не ейная. Ні тое, ні гэтае. Лозунг жа прыгажуняў: усё альбо нічога!

І яна ідзе на ўсё.

І ўжо ваш аўтапартрэт ёй неахвота здымаць са сцяны.



Малюнак Арлена КАШКУРЭВІЧА

## ХЛОПЦЫ ЎЖО, ВІДАЦЬ, ЗАЧАКАЛІСЯ?

Прахапіўся ў пяць. Толькі-толькі днела. Разбудзіў ён. Утаропіўся ў мяне вачыма, высмактваў апошнія сокі. Я ўпершыню зларіў яго за працай. Зразумеў, чаму пасля смерці ейнага мужа кожную раніцу пачуваюся блага, а яна баіцца тут начаваць.

Шпурнуў будзільнік. Жалезная скрыначка не даляцела да яго парачку дзюймаў, адскочыла, упала на падлогу, пакацілася: дзінь, дзінь...

"Ён у ахоўным полі, — сцяміў я. — З ходу — не ўзяць. Думай, Федзя, думай".

Ёсць ідэя: сернікі! Полымя прагліне і поле! Падпаліць крывасмока!

Устаю, усміхаюся (як бы кажу: ну хопіць на сёння, даражэнькі, ну хопіць), іду нібыта мыцца. Запальваю пліту — бы згатаваць кавы, але прыкурваю ад канфоркі газету. Тут жа, — пакуль "сябра" не датумкаў, што да чаго, — выплюхваю ў вочы-свярдзёлкі — толькі не прамахнуцца! — падрыхтаваную на ўсялякі выпадак (якое супадзенне!) шклянку спірту і ўслед пасылаю вогненныя "апошнія навіны". І — салют: яго партрэта больш няма!

А сам кірую дахаты. Не чакаю, пакуль тыя, што нічога не бачаць, мяне тулы ў ненавіснай з дзяцінства кашулі да пят завязуць. Ды й халасцяцкае, у родных сценах жыццё спакайнейшае будзе. І хлопцы, зноў жа, пакуль я сватаўся-жаніўся, нябось, па сяброўку засумавалі...

## ЯК ЯНЫ ЎСМІХАЛІСЯ АДНО АДНАМУ

Яна: "Піць пачне з сямі-васьмі. Да адзінаццаці будзе "гатовы". У дванаццаць адыдзе, захрапіць, і вось тады..."

Ён: "Ляжа, як усе, хто шануе здароўе, у дзевяць-дзесяць. Да адзінаццаці пагартае якую-небудзь лухту, кшталту "Веданне свайго гараскопа — зарука даўгалецця". Пад дванаццаць гарматай не разбудзіш. І вось тады..."

Яны сядзелі за невялікім столікам у "Макдональдсе". Прыгожыя, элегантна апранутыя, шчаслівыя. Быў выхадны дзень. Сонечна. Радасна. Яму зайздросціў увесь мужчынскі род, ёй — усе жанкі на свеце.

"Вось тады, — закончыла яна, — я і заб'ю яго..."

"Яе", — паправіў ён.

Як яны ўсміхаліся адно аднаму!

## ПРЫЗНАННЕ

З нейкага часу яму пачало здавацца, што муж, які надта ж хваліць сваю жонку прылюдна (скажам, за бяседным сталом), робіць гэта не проста так, не з прычыны палкага кахання і пяшчоты да яе. Чамусьці думалася, што такі чалавек у нечым вінаваты перад сваёю палавінай, тоіць нейкі страшэнны грэх і цяпер каецца, спрабуе загладзіць віну, адкупіцца. І толькі зараз, у навагоднім застоллі, да яго дайшло, што тут да чаго: яны, гэтыя людзі, проста не спяць з жонкамі...

— Тата, твая чарга маму віншаваць! — спахапіўся ён ад голасу старэйшага сына.

— Але-але, мы чакаем, Алег Васільевіч, — падтрымалі госці. — Ваш тост.

Ён паволі падняўся з крэсла, нібы ажываючы, вяртаючыся ў святочную атмасферу, з якой, задумаўшыся, выпаў на колькі хвілін, ледзь чутна праверыў голас: "гм-гм", канчаткова ачуўся і — яго панесла:

— Скажу вам, сябры, шчыра: без маёй дарагой, ненаглядная, мудрай, каханай жонкі я ў гэтым жыцці анічога б не дамогся. Толькі дзякуючы ёй...

— Вось гэта я разумею — каханне! — перапыніла яго жончына сяброўка. — Вось гэта прызнанне.

"Але, прызнанне, — мільганула ў ягонай галаве, — сапраўды, прызнанне..."

## НЕСПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Яна ведала, што свет несправядлівы, але каб да такой ступені! І каб несправядлівасць закранула акурат яе, усё жыццё гатовую сустрэць любыя нягоды!

Не, свет не толькі несправядлівы, — свет нелагічны, непаслядоўны, бязглузды.

Яна прытрымлівалася рэжыму, жыла па распарадку: басейн, сон, масаж, прырода. Не працавала, неператамлялася, не нараджала, шанавала сябе: да сарака — ніводнай маршчынкі. Любіла сябе.

Вельмі любіла.

І яна, што берагла сваё здароўе як зрэнку вока, што здзьмухвала з сябе пылінкі, цяпер памірала, а ля ложка стаяў ейны муж. Сівы, аблыселы. Які ніколі не асцерагаўся, недасыпаў. Усё жыццё працаваў як вол, і таму быў вечна змэнчаны і ў пяцьдзесят — стары. Стары і стомлены.

І, стомлены, ён падаваў ёй есці, прыўзнімаў на падушках галаву, даглядаў яе, супакойваў, здабываў па аптэках лекі, працаваў уночы, каб аддзячыць дактарам і не прыйсці да яе ў палату з пустымі рукамі. Шмат працаваў. Цягнуў і цягнуў ярэмца.

Ён кахаў яе.

Яна памерла, але так і не зразумела, што свет не проста несправядлівы — ён татальна несправядлівы. Несправядлівы й да несправядлівасці, і да кахання.

## ЯК У БОГА ЗА ПАЗУХАЙ

Шэсцьдзесят гадоў разам. Шэсцьдзесят гадоў жыцця як у Бога за пазухай. Ён быў інтэндант, генерал. Заўсёды заняты, заклапочаны, нават пасля выхаду ў адстаўку: "Не хачу, каб ты калі-небудзь зведала нястачу". А яна — пры ім: жонка, каханка, кухарка, прыслуга, сяброўка — усё разам.

Жыццё прамільгнула, як імгненне. Жыццё прамільгнула...

Яна выцяла яго. Моцна, наводліў. Пасля яшчэ і яшчэ. Па галаве. Біла і галасіла. У яго пайшла кроў. З рассечанай губы, з носа. А ён толькі бездапаможна ўсміхаўся. Паказаў вачыма на сервант. Там, у верхняй шуфлядцы, ляжаў дамскі, інкруставаны слановай косцю пісталет. Падказка? Ён кіўнуў: давай!

Яна не вінаватая. Яна — здалася, зламалася, сарвалася: ён зноў вырваў шланг, праз які апаражняўся. Пад раніцу заснуў, павярнуўся на бок і — шланг зляцеў. Ці ж першы раз! Госпадзі, зноў гэты смурод. Ён працінае, выварочвае, душыць...

Ён не варушыўся, астываў, а яна ўсё перакладвала пісталет з рукі ў руку, не магла прыйсці да памяці. Нарэшце ачомалася, села ў галавах на крэсла. Апошнія некалькі месяцаў амаль не ўставала з яго: чакала, спадзеючыся на цуд. Цяпер — усё. Уздыхнула: "Дзякуй Богу, канец. Даруй, любы. Даруй і павер: цярпела, але — не вытрывала. Гэта аказалася мне не па сіле. Але ты не хвалюйся, я — хутка".

Прайшла на кухню, узяла падрыхтаваную загадзя ампулку, паклала ў рот. Наліла ў шклянку вады. Ампулка хруснула. Вярнулася ў спальню. Легла побач з ім. Была шчаслівая: зноў разам.

Ціха заснула.

# ШЧАСЛІВЫ КОТ

На вядомым адкрытым фестывалі кіно краін СНД і Балтыі "Кінашок", што нядаўна завершыўся ў Анапе, прыз за лепшую мужчынскую ролю атрымаў таленавіты беларускі акцёр Анатолій Кот. Па меркаванні журы, якое сёлета



ўзначальваў пісьменнік В. Ярафееў (з "нашых" у склад журы ўваходзілі акцёры С. Сухавей і Р. Янкоўскі) князь Уладзімір А. Ката з "Анастасіі Слуцкай" выглядаў найбольш пераканаўча за астатніх герояў. І з гэтым насамрэч можна пагадзіцца.

Сёння трыццацігадовы акцёр А. Кот працуе ў Тэатры-студыі кінаакцёра, актыўна здымаецца ў кіно, рэкламе, працуе на FM-радыё. Хутка яго можна будзе ўбачыць у новых беларускіх кінастужках "Дунечка", "На безымяннай вышыні", а таксама ў серыяле АНТ "Гатэль выканання жаданняў".

В. Б.

*НА ЗДЫМКУ: А. КОТ у вобразе князя Уладзіміра.*

*ФОТА А. ДЗМІТРЫЕВА*

# ПРОМНІ НА ПАПЕРЫ



У чэрвені ва ўтульнай зале Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі праходзіла выстава мастачкі Марыны Багловай-Петэрсон пад назвай, якую складана перакласці на беларускую мову — «Излучизмы». Сапраўды, акварэльныя творы вылучаюцца сваёй лірычнасцю, нязмушанасцю, свабодай Яе работы адметныя навізной не толькі ў тэхніцы, але і вобразным ладам. Чорны аловак на белым аркушы заўжды мае выразную эмацыянальную афарбоўку. Прысутныя на адкрыцці выставы, адзначалі, што творы Марыны змястоўныя, эфектныя, прафесійна зробленыя, насычаны філасофскім зместам. Гледзячы на карціны «Антрапамафізм», «Кожнаму сваё», «Тварэнне», разумееш, што ўсё ў жыцці мастачкі ды наогул у свеце невыпадкова, усе мае свой сэнс змястоўны. «Излучизмы» як падзенне і адлюстраванне свету, як абмен энергіі існых і ўяўных.

На жаль, гледачы выставы не змогуць убачыць сцэнаграфію да спектакляў "СМАК ЯБЛЫКА", які ідзе ў тэатры Янкі Купалы, "Дрэвы паміраюць стоячы" і "Чараўнік Ізумруднага горада" (Мурманскі абласны драматычны тэатр).

Галіна ФАТЫХАВА



**Пачатак сезона і яго закрыццё вызначаюць своеасаблівы кругаварот жыцця ў творчасці, яго ўласнае вымярэнне. Таму, напэўна, кожны мастацкі калектыў надае асаблівае значэнне менавіта гэтым "сезонавызначальным" момантам. Фальклор-тэатр "Госціца", які быў створаны ў 1986 годзе на базе дзіцячага фальклорнага ансамбля Белтэлерадыё і ўжо набліжаецца да свайго дваццаціголдзя, здаецца, таксама існуе ў традыцыйным часавым вымярэнні. Але гэта толькі на першы позірк.**

# НЕЗВАРОТНАЕ



Мінулы сезон калектыву пачаўся выступленнем на вераснёўскіх фэстах у Міры, у Заслаўі і ў Мінску. У снежні "Госціца" ўдзельнічала ў віцебскім Міжнародным фестывалі сучаснай харэаграфіі і ў канцэртах, арганізаваных Беларускім таварыствам сучаснай музыкі. Але сапраўднае адкрыццё сезона "Госціцы" адчулася ў лютым, калі ў Рэспубліканскім палацы культуры ветэранаў была паказана разгорнутая праграма "Ад Архаікі да Мадэрна". Потым адбылося выступленне ў Доме-музеі Ваньковічаў, у канцэрце, прысвечаным памяці беларускіх кампазітараў, якія заўчасна пакінулі гэта жыццё. І, нарэшце, яшчэ адна праграма пад назвай "Дух Зямлі" прайшла 22 мая ў Маладзёжным тэатры эстрады. Мяркую, тыя, хто трапіў на гэты, заключны канцэрт сезона "Госціцы", і хто пільна сочыць за творчасцю Ларысы Сімаковіч — мастацкага кіраўніка калектыву, атрымалі незабыўныя ўражанні.

Яшчэ нядаўна ў студыі фальклор-тэатра ўзнімалася вельмі актуальная для яго існавання праблема — праблема элітарнасці творчай дзейнасці калектыву, у нейкім сэнсе, незапатрабаванасці ў масавага гледача. Ды сапраўды "гэтая нечаканая Ларыса Сімаковіч", як слушна вызначыла Ю. Чурко ў сваёй кнізе "Лінія, якая ідзе ў бясконцасць", зрабіла фінальны канцэрт мінулага сезона "Госціцы" выбітным і, дарэчы, з відавочнай прэтэнзіяй на выхад да шырокай публікі. Пры гэтым — не здрадзіўшы сваёй глыбіні, элітнасці і якасці.

Тая праграма нагадвала непарыўны ланцуг тэатралізаваных кампазіцый, вакальна-харэаграфічных і ўласна вакальных нумароў, але ў ёй даволі яскрава вызначаліся дзве часткі. У першай панавала "Госціца", другую прапанавала Л. Сімаковіч, якая разам з цудоўным канцэртмайстрам Алегам Гембіцкім выступіла ў незвычайным, але, нібыта і натуральным для яе амплуа эстраднай спявачкі. Бо як толькі Л. Сімаковіч выйшла на сцэну, падалося, што яна толькі тым заўсёды і займалася, што спявала на эстрадзе. Гэта, як высветлілася, была ажыццяўленнем яе даўняй мары, якая шмат гадоў выспявала, утойвалася... Без перабольшвання скажу, што яе выступленне сталася сапраўдным адкрыццём у беларускай эстрадзе і дзівосным падарункам для публікі. Мелодыі з класікі джаза, мюзіклаў і кінафільмаў, аўтарскія песні Л. Сімаковіч на словы Б. Жанчака, У. Караткевіча, беларуская народная "Калыханка" і "Зорка Венера"С. Рак-Міхайлоўскага ў апрацоўцы Л. Сімаковіч, спірычуэлс "Sometime".... Неверагоднае, дзівоснае спалучэнне! Дзякуючы скразной тэатралізацыі, дзе асаблівую ролю выконвалі і белы раяль, і сціслая бутафорыя, і вытанчаная пластыка, яно было арганічнае і падобнае да бясконцага карункавага ўзору.

Народжаны, здавалася, вокамгненна, Тэатр песні Л. Сімаковіч атрымаўся такі незвычайны і яскравы яшчэ і таму, што ў ім удзельнічаў таленавіты музыкант — канцэртмайстар і чулы партнёр спявачкі, які валодае на рэдкасць шыкоўнай эстрадна-джазавай тэхнікай выканальніцтва, — А. Гембіцкі. Успрымаўся іх дуэт як адзінае цэлае і, у той жа час, як парытэтнае двуадзінства. Можна сказаць, што Л. Сімаковіч пашанцавала: А. Гембіцкі, прафесійны харавы дырыжор, захапляўся эстрадай, самастойна вывучаў джазавую гармонію, тэхніку імправізацыі і з цягам часу авалодаў сапраўднымі вяршынямі майстэрства ў гэтай галіне фартэпіяннага выканальніцтва.

Але ў цэнтры ўсёй канцэртнай праграмы быў твор, які і вызначыў яе агульную назву, — своеасаблівая тэатралізаваная вакальна-інструментальная кампазіцыя Л. Сімаковіч "Дух Зямлі" ў выкананні "Госціцы". Яна перагукалася з пластычнагульнёвай аўтэнтыкай "Вясняначкі" і веснавымі песнямі ў выкананні дзяцей, што адкрывалі праграму. "Дух Зямлі" наогул вылучаецца з шэрагу апошніх музычна-тэатральных твораў Л. Сімаковіч. Сінкрэтызм тут саступае месца іншай форме ўзаемадзеяння выразных сродкаў — сінтэзу, у якім пераважае спеўна-інструментальны пачатак. Такія суадносіны тэатральнага, харэапластычнага і музычнага назіраюць "Дух Зямлі" да твораў І. Стравінскага — такіх, як "Вяселейка" ці "Гісторыя салдата".

Наогул, апошнім часам у рэпертуары "Госціцы" пачалі часцей з'яўляцца "атанцаваныя" музычныя дзействы. Сярод іх — "Алегорыі існавання", "Незваротнае", "Дарожка". З іх дзве апошнія былі прадстаўлены ў канцэрце. Разам з тым, дыя-

ПРЭМ'ЕРЫ

***Учора ў Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры распачаўся новы (19 –ы па ліку) тэатральны сезон. Можна лічыць, што ўжо ў гісторыі застаўся творчы канфлікт, што ўзнік паміж дырэктарам (В. Старавойтаў), галоўным рэжысёрам тэатра (В. Катавіцкі) і пэўнымі акцёрамі Маладзёжнага, які скончыўся (а дакладней — сцішыўся) прэм'ерай спектакля "Казанне пра Гуску" ў рэжысуры В. Катавіцкага і... звальненнем галоўнага рэжысёра (цяпер В. Катавіцкі, які адслужыў на гэтай пасадзе амаль дванаццаць год, будзе выкладаць у Беларускай акадэміі мастацтваў, актыўна здымацца ў кіно і рэкламе). Напрыканцы сезона было разыграна толькі некалькі "пілотных" спектакляў "Казанне пра Гуску" (журналісты на іх прынцыпова не запрашаліся з прычыны няспеласці сцэнічнага матэрыялу), які на сённяшні час з'яўляецца найноўшай пастаноўкай Маладзёжнага тэатра...***

# УСЕ МЫ РОДАМ — З АБЫВАЦЕЛЯЎ!?

Увогуле, у арыгінале спектакль В. Катавіцкага, пастаўленага паводле п'есы ўкраінскага драматурга М. Куліша, мае даволі доўгую назву — "Казанне пра Гуску, яго жонку Секлетэю, семярых дачок і Блажэнны вострау..." (Дарэчы, у рэпетыцыйны перыяд ён называўся прасцей — "Так загінуў Гуска, ці гімн абывацелю".) Як у добрых савецкіх кіноказках, спектакль пачынаецца з зачыну апавядальніцы ў акенцы (А. Хрысціч), і гэты пастановачны ход адразу настройвае гледача на прагляд нечага нерэальнага, несур'ёзнага.На спажыванне гісторыі, якая адбываецца за лясамі, за гарамі ў трыдзевятай краіне, дзе жывуць-пажываюць і скарб нажываюць Гуска (У. Мішчанчук), яго жонка Секлетэя (Н. Анішчанка) і сямёра дачок, прагнучых выйсці замуж. Жывуць замілавальным, сытым, лагодным жыццём заможных абывацеляў.



Смачным, як смажаная кілбаса, рознакаляровым, як вясёлка, праліта на суконкі Гускавых жанчын, простым, як народная песня, што спяваецца дзяўчынамі на захадзе сонца... Жыццём па-свойму індывідуальным, хаця і відавочна абмежаваным (са злоснай барацьбой дачок за адзінага жаніха, плёткамі). Жыццём, якое можа не спадабацца тым, хто марыць зрабіць шчаслівымі ўсіх па аднолькаваму. Бо як у любым казанні на любое светлае жыццё абавязкова спакусіцца вораг: ці свой Здыхлік Неўмяручы, ці які-небудзь Змей Гарыныч. У выпадку з Гускам — такім выступае незвычайны карлік у шэрым плашчы (К. Задворны), у вобразе якога згадваецца новаспечаны бальшавік, паслядоўнік Маркса. І хаця гэты незнаёмец — усяго толькі карлік, яго ідэі настолькі ўплывальны і страшэнныя, што падаюцца абываццелю Гуску вялікімі разбуральнікамі яго замілавальнага, ціхага, летуценнага жыцця. Бо калі сёння карлік заняў адзін з пакояў у яго хаце, то што будзе далей?..

Шчыра кажучы, мне асабіста не даспадобы гэтая апавядальная "ўпакоўка" драматургічнага тэксту М. Куліша, якая крышачку спрасціла тэат-

пазон творчага самавыяўлення "Госціцы" пашыраўся ў бок уласна спеўных твораў, і не толькі фальклорнага паходжання. Заходнееўрапейская музыка эпохі Адраджэння арыгінальна спалучалася з "беларускім блокам" — баладай "Пры крайчыку" на народны тэкст, апрацоўкай побытавага канта "Куды едзеш, Рамане?", арыгінальнай харавой фрэскай "На Йорданні", штуршком да стварэння якой паслужыў пачатковы матыў аднайменнага канта, а таксама з народнымі песнямі ў сольным выкананні. Адну з іх — "Ой, стаіць бяроза" — выканаў Ян Жанчак, уладальнік моцнага голасу, незвычайнага сваёй тэмбравай афарбоўкай і дыяпазонам. Другая — балада "Сакол" Л. Сімаковіч на народныя словы — прагучала ў аўтарскім выкананні.

Пасля канцэртаў "Госціцы" заўсёды ўзнікаюць пытанні: адкуль бярэцца матэрыял для старажытнага абраду, хто ведае, якімі былі беларускія гімны Сярэднявечча, як трэба выконваць беларускія канты, балады, іншыя народныя песні, тым болей, калі ад іх засталіся толькі тэксты? У выкананні "Госціцы" ўсё гэта падаецца сапраўдным, першародным... Але на самай справе ў большасці выпадкаў іх аўтар — наша сучасніца Л. Сімаковіч. Здаецца, ёй падараваны слых і зрок мінулых стагоддзяў, таму кожны яе твор быццам жыве ў розных вымярэннях адначасова.

Шкада толькі, што пасля выступленняў "Госціцы" не застаецца ні праграмак, ні відэазапісаў. Кожнае ж выступленне гэтага калектыву унікальнае, не паўтараецца нават калі выконваюцца творы з мінулых праграм. Дарэчы, назва аднаго з твораў Л. Сімаковіч — "Незваротнае". Гэта незваротнае быццам размыкае фармальныя межы сезонаў "Госціцы", робячы яе творчасць бясконцай і незваротнай, як само жыццё. Выступленні "Госціцы" — гэта амаль што аўтарскія канцэрты Л. Сімаковіч, якая ў кожнай новай праграме і нечаканая, і шматабліччная. Выканаўца ў складзе калектыву, кампазітар, балетмайстар-харэограф, мастацкі кіраўнік, рэжысёр-пастаноўшчык... Уладарка глядзельнай залы, пануючы дух Зямлі, якую яна чуе, адчувае, любіць зямлю, якая надзяліла яе такім рознабаковым дарам.

•

Учора, 25 верасня, афішы Залы камернай музыкі запрашалі на адкрыццё новага сезона "Госціцы". Праграма пад назвай "Bellcanto sans pointes". Яшчэ адно адкрыццё...

**Вера ГУДЗЕЙ-КАШТАЛЬЯН**

---

ральнае дзеянне. Хаця, зразумела, што рэжысёр імкнецца пакінуць п'есу ў межах, так бы мовіць, паліткарэктнасці, і ідэалагічна не да чаго не прымушаць гледача. У "казачным" варыянце ў вобразе Гускі бачыцца своеасаблівы біблейскі Іона, які хаваецца ад новага навязанага жыцця ў бруху вялікай прыгожай рыбіны (сцэнограф В. Грыцаева цудоўна прыдумала зрабіць цела рыбы падобным на сцяну дома з мноствам дзвярэй). Бо калі ў 20—30-х мінулага стагоддзя, калі была напісана п'еса, паводзіны Гускі, які проста любіць жыць, здаваліся смешнымі, камічнымі, дастойнымі таго, каб кпіць над дзіваком абывацелем, то сёння ўвесь гэты абывацельскі ідэалізм здаецца надзвычай здаровым і нават у нечым высакародным. Бо кожны чалавек мае ПРАВА жыць свабодна і годна, але так, каб не перашкаджаць іншым. На жаль, усе камічныя сцэны ў спектаклі (напрыклад, падлік Гускам колькасці дачок, ці дзяўбанне ўсім светам дзірачкі ў сцяне для назірання за карлікам), вынаходліва аздобленыя баладнымі кампазіцыямі ўкраінскага гурта "Воплі Відаплясава", набліжаюць казанне (і гэта вельмі адчуваецца ў глядзельнай зале) да трагічнага фіналу. Мы бачым, як паступова ўпэўнены ў сабе, у будучым, абывацель Гуска, якога цудоўна ўвасабляе акцёр У. Мішчанчук (увогуле ў спектаклі стварылася някепскі акцёрскі ансамбль), губляецца, траціць надзею. Бо нават на той Блажэнны востраў, куды ўцякаюць усе Гускі ў бруху рыбіны, пранікае жывая гісторыя з усемагчымымі рэвалюцыямі і рэвалюцыянерамі, якія могуць скрасці апошнія галошы і ў прафесара Прэабражэнскага, і ў абывацеля Гускі. І разам з разгубленым, расціснутым Гускам на Блажэнным востраве паміраe здаровы ідэалізм, права на мару спакойнага, добраўладкаванага жыцця...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

P.S. Спектакль можна пагладзець 27 верасня.

***НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля. ФОТА А. СПРЫНЧАНА***

---

**ВЫДАННІ**

***25 верасня нарадзіўся Міхал Клеафас Агінскі. У Залессі прызвычаіліся адзначаць гэты дзень штогод. Колішняя сядзіба музаў, "Паўночныя Афіны", дзе наш знакаміты зямляк пражыў два шчаслівыя і па-творчы плённыя дзесяцігоддзі, прываблівае сваімі тэатралізаванымі музычнымі імпрэзамі не толькі жыхароў наваколля, але і гасцей прыезджых. Бліжэйшая "круглая" дата — 240-годдзе Міхала Клеафаса, у 2005-м. Але і сёлета яго імя (як і яго музыка) гучыць, бадай, часцей, чым у неюбілейны час. Магчыма, таму, што каляндар нагадаў яшчэ адну дату: мінула 170 гадоў з дня смерці гэтага выбітнага чалавека, вядомага і сваёй грамадскай дзейнасцю, і творчасцю.***

# «ПАЎНОЧНЫХ АФІНАЎ» ЧАС




Музычнай спадчыне М.Кл.Агінскага сёлета прысвячаўся фестываль "Музы Нясвіжа" ды іншыя мастацкія святы, у якіх удзельнічаў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М.Фінберга. Двухдзённая Міжнародная навуковая канферэнцыя па праблемах аднаўлення і захавання гістарычных сядзібаў, праведзеная на пачатку верасня, збіралася менавіта ў Залессі, дзе колішнія "Паўночныя Афіны" засмучаюць наведнікаў сваім ўсё яшчэ сірочым выглядам, хаця зусім слушна пачынаюць прэтэндаваць на тое, каб зрабіцца часткай міжнародных турыстычных маршрутаў.

Сёлета ж адбылася і "ціхая падзея": у Мінску выйшла прыгожая, маленькая і ёмістая сваім напаўненнем, прывабная шчырасцю інтанацыі кніжачка. Аўтар, Сяргей Верамейчык, назваў яе так: "Міхал Клеафас Агінскі. 1765 — 1833. Продкі, жыццё ў Залессі, нашчадкі (спроба храналогіі)."

"Шчыра прызнаюся — чатырнаццаць год таму пра Агінскага я амаль нічога не ведаў..." Вось так проста, у першым жа сказе сваёй прадмовы, прызнаецца С.Верамейчык. Пэўна, такі быў не ён адзін. Але менавіта ён быў з тых адзінак, хто рашуча змяніў уласны жыццёвы ўклад, пераехаўшы са сталічнага Мінска ў вёску Залессе. Побач з "Паўночнымі Афінамі" ён жыве без малога паўтара дзесяткі гадоў. Выкладаў маляванне ў пачатковых класах мясцовай школы, арганізаваў майстэрню для юных мастакоў "Альтанка" і аднайменную тэатральна-музычную студыю. Штогадовыя вераснёўскія імпрэзы ў гонар Агінскага — гэта ў поўным сэнсе слова і яго святы.

Выданне кніжачкі пра Міхала Клеафаса, у якой С.Верамейчык, цяпер ужо не толькі педагог, але і краязнаўца, і старшы навуковы супрацоўнік залескага філіяла Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, сканцэнтраваў звесткі, змешчаныя ў шэрагу розных выданняў, выкарыстаў уласны досвед экскурсавода, мастака, фантазію творчага чалавека, — таксама свята.



Значэнне гэтай падзеі пачынаеш разумець, калі міжволі задумаешся. Згадаеш Дзень ведаў, які поўніўся размаітымі песнямі пра "краіну ведаў" школу, сярод якіх — ніводнай беларускай песні, бо такіх проста няма, а вельмі шаноўныя чыноўнікі з Міністэрства адукацыі ў адказ на пытанне журналіста, сфармуляванае па-беларуску, распавядалі пра тое, што чакае "учащихся в новом учебном году", гэткім чынам вымушаючы інтэр'ера перайсці на рускую мову. Згадаеш, як падчас усеагульнай кампаніі "пошуку нацыянальнай ідэі" штодзённы гадзіннік беларускага часу — сціплы і змястоўны адрыўны каляндар "Родны край" марнее ў падземным шапіку (гэткае выданне-андэграўнд!), а ўвесь наземны кніжны і саюздрукаўскі гандаль стракаціць аналагічнай прадукцыяй з Кастрамы, дзе, як вядома, і сонца ўзыходзіць па расійскім часе, і змены квадраў месяца ў іншым часавым поясе адбываюцца, і "чырвоныя дні" на лістках не супадаюць з нашымі, і памятныя даты адрозніваюцца, і прысвяткі ды іншыя народныя традыцыі...

А тут — новая кніжыца, вызначаная непрэтэнцыёзным аўтарам як "спроба храналогіі", на старонках якой гучыць голас нашай гісторыі, нашай культуры, без якой немажліва гаварыць і пра будучыню. Гучыць "успамін былое славы — "Паўночных Афінаў" час, Калі ў Залессі, усімі знаны, Жыў Міхал Клеафас!" Які, дарэчы, ніколі "Не забываў, што ён "ліцвін" (стар.8, з музычнага дзіцячага спектакля "Вечар у Паўночных Афінах").

Выданне ўбачыла свет праз ВТАА "Кавалер Паблішэрс" і выйшла накладам 1500 экземпляраў. Аўтар прысвяціў гэтую працу Марыі Фёдараўне Жлобіч — сваёй матулі...

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

---

**ФІЛЬМАПІС**

# АПАКАЛІПСІС СЁННЯ

## 1. КАНЕЦ СВЕТУ БЛІЗКІ!

Пра гэта папярэджваюць гледача аўтары новага амерыканскага блокбастэра "Ядро Зямлі. Скок у пекла". Аказваецца, у бліжэйшы час ядро планеты астыне, сонечныя прамяні спапяляць зямную паверхню (пачнуць з Лос-Анджэлеса!), птушкі страцяць арыентацыю ў прасторы (найперш у Лондане!), а ў кожнага, хто мае кардыёстымулятар, спыніцца сэрца (перш-наперш у Нью-Йорку!). Дзякуй Богу, у Мінску і Баранавічах нічога страшнага не адбылося (ва ўсялякім выпадку, у фільме пра гэта нічога не гаварылі). Але і мы ведаем: канец свету блізкі, пачнецца не цяпер, дык у чацвер!

Хвалявацца, праўда, не трэба. Аўтары фільма супакойваюць — амерыканскія спецыялісты ўсе памылкі, якія прырода дапускае раз у мільярд гадоў, выпраўляць: апусцяцца ў цэнтр планеты, узарвуць чатыры мегабомбы — і ўсё о'кей! Аднаму з падарожнікаў, праўда, галаву праб'е камянём, другога расплюшчыць паміж сценкамі адсеку, трэці згарыць жыўцом, чацвёртага прыцісне бомбай. Затое двух галоўных герояў (Эрон Экхарт і Хілары Суонк, якія, вядома, у фінале пакахаюць адзін аднаго) на дне Ціхага акіяна будзе шукаць увесь Сёмы ўдарны флот.

Складваецца ўражанне, што гэты блокбастэр — мастацкая справаздача Пентагона амерыканскім падаткаплацельшчыкам пра тое, куды марнуюцца іх грошыкі. Атрымліваецца, у той час, калі на планеце галадае каля мільярда чалавек, ЗША выдаткоўвае мільярды долараў на пабудову прыстасаванняў для разагрэву ядра Зямлі. Асабіста мяне гэтае адкрыццё вельмі супакоіла. Цяпер буду спаць спакойна і не баяцца блізкага канца свету!

## 2. МАШЫНЫ АТАКУЮЦЬ!

У 1984 годзе бацька Джона Конара зачаў сына, узарваў благога кібера і ўратаваў чалавецтва ад будучага панавання робатаў ("Тэрмінатар", частка першая). У 1887 годзе добры кібер зварыў у катле металургічнага завода благога кібера, зварыўся сам і ўратаваў чалавецтва ад Суднага Дня ("Тэрмінатар", частка другая). У 2004 годзе, калі верыць аўтарам трэцяй часткі "Тэрмінатара" ("Паўстанне машын"), нас ужо нічога не ўратуе, амаль усе згарым, як свечкі.

Камп'ютэрныя спецэфекты "Тэрмінатара-3" уражваюць куды больш, чым у папярэдніх дзвюх частках. Затое на псіхалагічную абмалёўку характараў, якая прысутнічала ў папярэдніх частках, тут і намёку няма. Размовы паміж героямі — мінімальныя, затое ўцёкаў, боек у прыбіральні і сутарэнні, страляніны і выбухаў — процьма.

Арнольд Шварцэнэгер традыцыйна выконвае ролю становучага кібера і, як заўсёды, нічога не грае, толькі руйнуе ўсялякую прастору, дзе б ні апынуўся. Глядзіш на яго, і робіш адкрыццё: аказваецца, і тэрмінатары старэюць, губляюць былы спрыт. Каб "ажывіць" гэты вобраз, яму дадаюць некалькі камедыйных сітуацый. Напрыклад, трапляе з будучыні ён у аголеным выглядзе не абы-куды, а на стрыптыз-шоу ў жаночым клубе. Яшчэ адно наватарства трэцяй часткі "Тэрмінатара" — адмоўным кіберам, "тэрмінатарам тэрмінатараў", выступае жанчына (прыгожая Крысцін Лоўкн). Адпаведна, жанчына-тэрмінатар не пазбаўлена пачуццяў: сціпла ўсміхаецца, калі кагосьці забівае, і надзьмувае губы, калі ахвяра ўцякае ад яе вогнемёта.

Безумоўна карысным момантам гэтага двухгадзіннага відовішча можа лічыцца галоўная філасофія карціны: "Ад катаклізма не ўратуешся. Але яго можна перажыць!" І гэты фаталічны падыход да жыцця можа падацца досыць утульным. Сапраўды, навошта хвалявацца, калі ўсё даўно прадвырашана! Вось і галоўныя героі (Нік Стал і Клэр Дэнс) колькі б ні бегалі, а ў рэшце рэшт, як і было прадказана, апынуліся за пультам галоўнакамандуючага ў глыбокім бамбасховішчы.

І калі "Ядро зямное" запэўнівала гледачоў, што ад прыродных катаклізмаў нас уратуюць узброеныя сілы ЗША, дык "Тэрмінатар-3" сцвярджае адваротнае: нічога не ўратуе, у ліпені наступнага года адбудзецца паўстанне машын і чалавецтва павядзе вайну за выжыванне. Таму спяшайцеся рабіць дабро, праз год позна будзе!

**Ягор КОНЕЎ**

# У ХРАМЕ МУЗ

Сёння рэдка якая школа мае на сваім балансе музей. Але ж калі мне давялося пабываць на Касцюкоўшчыне, ды завітаць у Бялынкавіцкую сярэднюю школу, то здзівіўся: тут нават два музеі — "Лясны кардон" і гісторыка-краязнаўчы. З настаўніцай біялогіі Тамарай Мухарэўскай крочым па калідорах школы, сцены якой абабіты вагонкай і ўпрыгожаны рознымі вырабамі, (пастараліся вучні і мастак-дызайнер Валянцін Васькоўскі, які некалі вучыўся ў школе), зайшлі ў вялізны актавы зал, памерамі, як вясковы клуб. Усюды чысціня і парадак.

Перад тым, як пазнаёміцца з гісторыка-краязнаўчым музеем, які размешчаны на другім паверсе школы, заходзім у хіміка-біялагічны клас, дзе Тамара Іванаўна выкладае вучням свой прадмет. Здзіўляе створаны рукамі педагога і дзяцей маляўнічы куточак прыроды — з дрэвамі, кустамі і дзесяткамі гаршчкоў пакаёвых кветак.

**— Кветкі не толькі ўпрыгожваюць інтэр'ер класа, — расказвае Тамара Іванаўна, — яны яшчэ станоўча ўплываюць на паводзіны вучняў, робяць іх спагадлівымі і добрымі.**

Уваходзім у гісторыка-краязнаўчы музей. У ім размешчана больш за 2000 экспанатаў, прысвечаных гісторыі, археалогіі, мастацтву, дойлідству, краязнаўству і нават рэлігіязнаўству раёна. Каля першага стэнда — "Знакамітыя выпускнікі" спыняемся. Тамара Іванаўна гартае альбом з фоткамі выпускнікоў школы аж з 1957 года. На асобным фотаздымку, падпісаным: "Экскурсія ў Сураж, 1928 год", прыкмячаю пісьменніка Васіля Хомчанку. Ён стаіць са сваімі аднакласнікамі і трымае ў руках кнігу.

Заўважыўшы маю цікаўнасць, Тамара Іванаўна тлумачыць:

**— Васіль Хомчанка неяк гадоў за пяць да смерці прыязджаў да нас у школу са сваім дваюрадным братам, дарэчы, таксама выпускніком школы, вядомым вучоным доктарам хімічных навук Гаўрылам Платонавічам Хомчанкам. Старэйшыя памятаюць, як вучыліся ў школе па яго кніжцы "Практыкум па агульнай і неарганічнай хіміі". Дык вось, у адзін з ліпеньскіх дзён яны выпадкова сустрэлі мяне на вуліцы і запыталіся, як знайсці каго-небудзь з настаўнікаў, каб на хвілінку заглянуць у школу. Я пазнала іх (па фотаздымках у музеі), і калі аб гэтым ім сказала, яны прыемна здзівіліся.**

**За некалькі хвілін яны ўспомнілі шмат каго з настаўнікаў, аднакласікаў, прыгадалі розныя выпадкі, якія здараліся падчас іх вучобы ў школе.**

Неаднойчы бываў у роднай школе і знакаміты беларускі жывапісец Антон Стафанавіч Бархаткоў. У 1982 годзе ён разам з вядомай карцінай "Першая песенька" прыслаў запіску: "Вельмі шкадую, што з-за хваробы не магу прыехаць на адкрыццё музея". Пасля ён наведваў школу некалькі разоў і заўсёды пакідаў у музеі свае работы.

Сярод знакамітых выпускнікоў школы на здымку знаходжу і Алеся Пісьмянкова. Экспануецца калекцыя кніг паэзіі, якія аўтар падарыў музею.

З цікавасцю агледзелі мы астатнія экспанаты, і калі выйшлі са школы і пакрочылі да музея "Лясны кардон", Тамара Мухарэўская сказала:

**— Так як сярод работнікаў лесу ёсць і нашы вучні (шмат хто з іх выпускнікі Полацкага лясного тэхнікума, Мінскага тэхналагічнага інстытута), педагогі школы разам з кіраўніцтвам лясгаса, у прыватнасці, з дырэктарам Касцюковіцкага лясгаса Васілём Цярэшчанкам, вырашылі стварыць лясны музей. У ім мы пастараліся сабраць калекцыю прадметаў лясной гаспадаркі. Але ж сярод экспанатаў сустракаюцца звяры, птушкі і нават шкоднікі лесу.**

Адна з першых замежных дэлегацый, якая пабывала некалькі тыдняў таму ў музеі адзначыла, што ён адыграе не толькі лекцыйна-прапагандысцкую работу па лесніковых справах, але і па прыродазнаўстве.

В. П.





***Павел Лук'янавіч Марыеў —***

***генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «БелАЗ», родам з вёскі Дулава Яраслаўскай вобласці. Працоўную дзейнасць пачаў у 1956 годзе тэхнікам-канструктарам на Уральскім аўтамабільным заводзе. Пасля службы ў радах Савецкай Арміі прыехаў на Беларускі аўтазавод, дзе працаваў тэхнікам-тэхнолагам, інжынерам-тэхнолагам, начальнікам тэхнічнага бюро, намеснікам галоўнага тэхнолага, намеснікам галоўнага інжынера, галоўным інжынерам. У 1972 годзе скончыў Беларускі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці «інжынер-механік». Доктар тэхнічных навук. Аўтар дзевяці навуковых прац, з 1992 па 1995 год — дырэктар прадпрыемства, з 1995 года — генеральны дырэктар ВА « БелАЗ».***

# «БЕЛАЗ» УЗНАЧАЛЬВАЕ ГЕРОЙ БЕЛАРУСІ



## 24 ВЕРАСНЯ ГІГАНТУ БЕЛАРУСКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ — "БЕЛАЗУ" — СПОЎНІЛАСЯ 55 ГАДОЎ

Вытворчаму аб'яднанню "БелАЗ" – 55. Менавіта ў 1948 годзе ў адпаведнасці з Законам аб пяцігадовым плане аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі, у раёне чыгуначнай станцыі Жодзіна распачалося будаўніцтва завода па выпуску тарфяного абсталявання (пазней перайменаванага ў завод дарожных і меліярацыйных машын «Дармаш»).

Так пачалася гісторыя прадпрыемства, з канвеера якога ў 1950 годзе была выпушчана першая прадукцыя: кантэйнеры для перавозкі торфу, варушылкі для яго сушкі, іншае абсталяванне, а праз восем год, калі прадпрыемства стала называцца «Беларускі аўтамабільны завод» — першы самазвал «МАЗ-525» грузападымальнасцю 25 тон. Затым праекціроўшчыкі распрацавалі прынцыпова новыя канструкцыі самазвалаў «БелАЗ» для асваення радовішчаў карысных выкапняў адкрытым спосабам. 14 верасня 1961 года з завадскіх варот выйшаў першы 27-тонны «БелАЗ-540». А ўсяго за гісторыю прадпрыемства створана звыш 400 мадыфікацый кар'ерных самазвалаў грузападымальнасцю ад 27 да 280 тон, многія з якіх і зараз працуюць у многіх краінах свету.

Што сёння ўяўляе сабой ВА «БелАЗ»?

— Гэта складаны і ў той жа час збалансаваны механізм, — расказвае генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання **Павел Лук'янавіч Марыеў**. — Са зборачных канвеераў і з варот эксперыментальнага цэха прадпрыемства сёння сыходзяць кар'ерныя самазвалы рознай грузападымальнасці, тэхніка для абслугоўвання кар'ераў: франтальныя пагрузчыкі, калёсныя бульдозеры, паліваарашальныя машыны, цягачы-эвакуатары, калёсныя маніпулятары. Выпускаем таксама тэхніку для падземных работ. Гэта — шахтныя вагоны, механічныя мацаванні для лававых комплексаў, а таксама цяжкавозы і шлакавозы для металургічных прадпрыемстваў, аэрадромныя цягачы і іншае цяжкае транспартнае абсталяванне, якое патрабуюць спажыўцы.

Прадукцыя аб'яднання вылучаецца павышанай удзельнай ёмістасцю, высокімі паказчыкамі плаўнасці ходу, добрай манеўранасцю, лёгкасцю кіравання і надзейнасцю. Самазвалы выдатна сябе зарэкамендавалі ў складаных умовах эксплуатацыі пры распрацоўцы радовішчаў карысных выкапняў у глыбокіх кар'ерах Крайняй Поўначы і спякотных тропіках.

У складаных рынкавых умовах (прадпрыемства сярод шасці канкурэнтаў у свеце – канцэрны «Камацу-Хаулпак», «Юклід-Хітачы», «Катэрпілар», «Лібхер», «Тэрэкс», «Крэс», якія вырабляюць кар'ерную тэхніку) «БелАЗу» на гонар Айчыны ўдалося ўтрымаць лідзіруючае становішча на рынках СНД, захаваць працоўны калектыў і інжынерныя кадры.



Летась, напрыклад, толькі ў Расію адгрузілі 74,4 працэнта ўсёй прадукцыі завода. Яе асноўнымі спажыўцамі з'яўляюцца прадпрыемствы Кузбаскага вугальнага басейна, металургічныя і здабываючыя прадпрыемствы Уральскага рэгіёна, горназдабываючыя прадпрыемствы Якуцці, Дальняга Усходу і Кольскага паўвострава, Курскай магнітнай анамаліі.

Сёння ў эксперыментальных кар'ерах Беларусі праходзяць выпрабаванні новыя кар'ерныя самазвалы «БелАЗ-7516», «БелАЗ-7555G», «БелАЗ-7528» грузападымальнасцю ад 36 да 135 тон, якія будуць працаваць у любых, нават самых цяжкіх прыродных умовах. Вядуцца распрацоўкі новых праектаў.

Дарэчы, гандлёвая марка прадукцыі ВА «БелАЗа» адзначана высокімі замежнымі ўзнагародамі: «Міжнароднай брыльянтавай зоркай якасці», якая прысуджана "БелАЗу" Мексіканскім нацыянальным інстытутам маркетынгу, XVIII міжнародным прызам «За тэхналогію і якасць», X Залатым прызам Амерыкі «За якасць» і «Крыштальнай Нікай», прысуджанай Каардынацыйным Камітэтам міжнароднай праграмы «Партнёрства дзеля прагрэсу».

Несумненна: усё, што створана вытворчым аб'яднаннем «БелАЗ» за 55 гадоў — гэта заслуга ўсяго калектыву прадпрыемства. І, вядома ж, значны ўклад па павелічэнні аб'ёмаў вытворчасці, па максімальным задавальненні запытаў пакупнікоў унёс генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «БелАЗ» Павел Лук'янавіч Марыеў. Калі ў 1995 годзе на прадпрыемстве выпускалася 50 мадыфікацый самазвалаў рознай грузападымальнасці, то ў цяперашні час — больш за 200. Сёння наладжаны выпуск спецыяльнай тэхнікі для абслугоўвання кар'ераў і металургічных прадпрыемстваў, малатанажных аўтамабіляў, асвойваюцца новыя віды тавараў народнага спажывання. Пад кіраўніцтвам Марыева распрацаваны праект рэканструкцыі існуючай вытворчасці з абнаўленнем асноўных фондаў, вырашаюцца праблемы ўмацавання і развіцця сувязей з прадпрыемствамі-сумежнікамі, шырыцца экспарт прадукцыі ў дальняе замежжа.

За самаадданую працу, выключныя заслугі ў развіцці айчыннага аўтамабілебудавання Паўлу Лук'янавічу Марыеву прысвоена званне «Герой Беларусі».

Віктар ПАТАПЕНКА

**УРАЖАННЕ**

# МАЦІ І СЫН

На канале "Культура" Бел. Радыё прагучаў спектакль "Дзень нараджэння" па п'есе "Маці і сын" фінскай пісьменніцы Эйлы Пэннанэн, у якім занатаваны фрагмент жыцця, дыялог раз'яднаных людзей, маці і сына...

Было б наіўна не заўважаць сувязі паміж крушэннем чалавечых лёсаў і сацыяльна-палітычным здароў'ем грамадства. Любы дысбаланс у грамадстве штурхае людзей да благіх учынкаў. Людзі хочуць жыць па ідэалах і прынцыпах Справядлівасці і Праўды. І калі жыццёва-неабходныя памкненні не рэалізуюцца, то людзі з цягам часу ператвараюцца ў алкаголікаў.

Слухаючы спектакль разумееш, што галоўныя героі (дзеючыя асобы — безымённы) бачылі, што для захавання жыцця людзі навакол хлусяць, зневажаюць, прыстасоўваюцца да подласці. І ў іх душах нешта зламалася.

Маці, адхіліўшыся ад выхавання сына, пазбавіла яго хатняга прытулку, гаючай і паблажлівай ласкі і турботы. Добрапрыстойны ўклад жыцця (маці некалі нават музіцыравала) па ініцыятыве бацькі змяніўся на папойкі.

Галоўны у спектаклі — дыялог маці і сына.

Аднойчы, сустрэўшыся з сынам, п'яная маці больш заклапочана не тым, як вырвацца з палону дыпсаманіі і вывесці з яе юнака, а як дазнацца ў яго пра чарговых палюбоўніц свайго былога мужа. Пахаваўшы сябе сярод абломкаў жаданняў, маці ўжо не турбуецца за сына, кінутага ёю ў вір п'янства, а выпівае ў яго прысутнасці бутэльку віна, спаталяючы жывёльнае жаданне зноў трапіць у наркатычнае трызненне. Яна ж працуе і можа сабе дазволіць... выпіць! А сын... А юнак можа есці адходы са сметніцы, ужо будучы няздольны ўзняцца з каленяў. І выпаўзці з духоўнай ямы.

Сустрэча з урачом-нарколагам Петтэры, які ў мінулым таксама пакутаваў ад алкагалізму, дае надзею юнаку на хуткае выздараўленне, але толькі не пад адным дахам з роднай маці. Сын лічыць за лепшае жыць у чужых, дзе аб сваім болю ён можа распавесці толькі... сцяне!

Дыялог маці і сына нагадвае сітуацыю развітання людзей пры адыходзе цягніка — адзін на платформе, другі ў вагоне...

Аўтар п'есы неверагодна дакладна пабудавала гэтую мізансцэну. Перабудаваць жыццё здольны толькі тыя, хто не баіцца яго, а любіць. І калі чалавек гіне дзеля любові да Чалавека, Радзімы — гэта значыць ён жыве! Бо чалавек павінен бачыць вакол сябе другіх людзей. Гэта яго абавязак. Умець думаць аб чалавецтве — значыць не памерці!

Спектакль — цяжкае абвінавачванне любой палітычнай нестабільнасці, якая нараджае духоўных інвалідаў.

Моцная грамадзянская пазіцыя і дазволіла рэжысёру, засл. артысту Беларусі І. Лапцінскаму не пабаяцца ўзяць на першы погляд "нявыгадную" п'есу для пастаноўкі спектакля на Радыё. І запрасіць у яго нар. артыстку Беларусі Г. Талкачову і артыста А. Вінярскага.

Артысты выдатна перадалі ўзровень духоўнага падзення людзей. Г. Талкачова і А. Вінярскі іграюць проста, псіхалагічна дасканала, прымушаючы слухача да самастойнага роздуму, аналізу прычын дэградацыі людзей і саўдзелу ў аўтарскіх разважаннях.

Бясспрэчна, што, па прычыне актуальнасці, радыёспектакль заслугоўвае дастойнай ацэнкі на конкурсным форуме, бо ён выкананы ў лепшых традыцыях акцёрскага майстэрства, калі без рэквізіту, без светавога і музычнага антуражу, без глытання "сінтэтычных" артыстычных слёз дасягаецца вяршыня мастацкай глыбіні з выдатканнем часткі асабістай душы.

Патрэбна адзначыць, што Эйла Пэннанэн дае шанц спадзявацца на тое, што сын пераадолее мацярынскую слабасць. І дзеля любові да Жыцця і Маці зможа перетвараць яе ў дабрачыннасць.

Таццяна ІГНАТОВІЧ

**НАШЫ ПУБЛІКАЦЫІ**

# «БОЛЬШ ЗА ЎСЁ ЦЯГНЕ ДА ПЕСЕНЬ...»

## Дзённікавыя запісы Ігара ПАЛІВОДЫ

***У нумары за 20 чэрвеня 2003 г. "ЛіМ" надрукаваў фрагменты дзённіка выдатнага музыканта, кампазітара Ігара Паліводы. Рэдакцыя шчыра дзякуе яго ўдаве Вользе Пятроўне за магчымасць прадоўжыць публікацыю, якая выклікала вялікую цікавасць у нашых чытачоў. (Друкуецца ў перакладзе.)***

**Чацв. 26.1.1984 г. Мінск.**

Дзеяннямі сваімі на ніве высокага (не эстраднага) мастацтва пакуль гранічна незадаволены. Добра адно: занятак гэты дапамагае ўбачыць сябе, як у люстэрку, ва ўсёй непрыгляднай красе.

За мінулы ад моманту паступлення (у клас кампазіцыі кансерваторыі. — **С.Б.**)перыяд здолеў выціснуць з сябе некалькі маленькіх п'ес-паганак, што не маюць ніякага права на існаванне за межамі асабістага творчага партфеля. Пакуль выяўляю поўную бездапаможнасць.

Пільныя назіранні за сабою ў люстэрку наводзяць на самыя сумныя высновы.

1. Агульнамузычнае невуцтва.
2. Адсутнасць вобразнасці ў гатовых узорах. Пустэча.
3. Вялікія праблемы з музычнай мовай, стылістыкай.

Ужо не кажу пра тэхніку стварэння, бо па тое і прыйшоў да людзей з энцыклапедыі. Пакуль усё на інтуіцыі.

4. Вайна на два франты. Дзве крутыя скалы, скачаш увесь час з адной на другую, як горны казёл. З гэтым трэба нешта вырашаць, бо дзейнічае на нервы, выліваецца ў штогадзінныя змены стану, бяссонне. Часам нават хочацца ў дурдом.

Зараз, напрыклад, шэсць раніцы, а я яшчэ і не клаўся. Ці не псіх?

**Пт. 22.11.1985 г.**

Сіняя папка. Гляджу на яе з усё большай любоўю. Там цяпер ляжыць скончаная ўчора музычная саната.

Цяпер і ў мяне ёсць саната. І гляджу я на сваіх малодшых сабратоў, якія яшчэ неабсанаціліся, не іначай як зверху, намагаючыся не думаць пра тое, што нованароджаны опус з'явіўся на свет не без дапамогі спанатранага акушэра. Немаўлятку яшчэ ніхто не бачыў, але яна існуе і падаецца мне, канечне ж, лепшай з усіх да сябе падобных.

**Ср. 8.1.1986 г.**

Адной з апошніх буйных работ у галіне напаўлёгкага жанру была "Раймонда". Яна вартая асаблівай увагі.

Палатно было створана ў шэсць дзён і тры начы. Мы з Л. Гуціным (кампазітарам. — **С. Б.**) акуратна размецілі партытурную паперу і, папляваўшы на далоні, узяліся запаўняць такты неверагоднай сумессю мелодый, вядомых у нашай краіне як творы Райманда Паўлса, з папулярнымі тэмамі сусветнай класікі ўперамешку са старой эстрадай, мелодыямі з аперэт і да т.п. Атрымаўся ронда-санатны кампот з рэфрэнам "Allegro Mafioso" (песенька "Делу время", ці "Эй вы там, наверху").

Пасля напісання твор быў неадкладна выпрабаваны выкананнем.

Навагоднія канцэрты. Шаноўная публіка, якая перапоўніла залу, апладзіруе стоячы, заходзячыся ў воклічах "брава". Такога фурору даўно не бачыла наша канцэртная зала, у зале асыпаўся тынк і там цяпер давядзецца рабіць рамонт; Бліноў (тагачасны дырэктар Канцэртнай залы Белдзяржфілармоніі. — **С.Б.**) вельмі сварыўся.

У тых жа канцэртах "тряхнули стариной" з В. Раінчыкам, выканаўшы на двух раялях п'еску кансерваторскіх часоў — на тэму "В лесу родилась елочка". ("Капуснікі" ў кансерваторыі (цяпер Беларуская акадэмія музыкі) славіліся выступленнямі дуэта віртуозных піяністаў Палівода—Раінчык, які выконваў арыгінальныя музычныя пародыі. — **С.Б.**) Паставіліся да выступлення з колішняй сур'ёзнасцю, пачаўшы рэпетыцыі амаль за тры тыдні да выступленняў. Крыху пабляклы з гадамі фартэпіянна-выканальніцкі лоск кампенсаваўся высакаякаснай японска-амерыканска-заходненямецкай акустычнай апаратурай.

Публіка прыняла нас горача, і не абышлося нават без кветак.

**Чацв. 14.8.1986 г.**

Начую ў асобнай кватэры на вул. Пляханава, якую называю не інакш як працоўным кабінетам.

Прынамсі, уся мая "каўбаса" вырабляецца цяпер менавіта тут, дзе створаны ўсе ўмовы для нармальнага цячэння вытворчага працэсу: мяккі фатэль-ложак (амаль не паламаны), лёгкі тэлевізар, узяты напракат, тэлефон, халадзільнік, ванна з шампунямі і дадатак да гэтага — вялікі чорны раяль, куплёны выпадкам за 100 р., а таксама пісьмовы стол.

Як відаць, тут можна не толькі нараджаць на свет духоўныя ды іншыя каштоўнасці, але і аўтаномна існаваць працяглы час.

Не кожны сучасны творца мае такія магчымасці для творчага гарэння.

Гары — не хачу!

**Пт. 4.12.1987 г.**

Часам пад настрой сядаю за раяль у сябе і магу гадзінамі вывяргаць набалелае, накіпелае, набрынялае і перапелае — у вольнай імправізацыі. Раяль цяпер няблага настроены і гучыць непагана. Сходу нараджаюцца мелодыі, сугуччы, поліфанічныя перапляценні, нечуваныя гарманічныя планы, мудрагеліста расфарбаваныя політанальныя і нават полімадальныя канструкцыі; усё гэта само сабой прыбіраецца ў пэўную форму і нават набывае лагічную закончанасць, напаўняючыся дзіўнымі вобразамі ды зменай настрояў...



Скончыўшы "излияния", устаю з-за чорнай пачвары і нейкі час чуюся ў стане салодкай прастрацыі ад уласнай бязглуздзіцы, і ў галаве ўжо гучыць с імфанічны аркестр п/к Б. Райскага.

Ды варта пакласці на пюпітр нотную паперу, як усё гэтае дабро раствараецца дзесьці ў чадзе пракуранага памяшкання і праз шчыліны ў аканіцах хутка вылятае ў наваколле, у зямную атмасферу.

На ранейшым месцы застаюцца толькі пакрыты пылам стары раяль ды здзіўлены вусаты суб'ект трыццаці сямі гадоў у хатнім халаце і з папяросай "Беломорканал" у роце.

**Сб. 25.5.1991 г.**

6 мая адбылася сустрэча з кіраўніцтвам Аркестра, якая прайшла ў цёплай, але дзелавой атмасферы.

Было адзначана: надыходзіць вялікая падзея — 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча, народнага паэта. Ці можа Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі яе абмінуць? — запыталася ў сябе кіраўніцтва строга. Не можа, — быў адказ.

Адчуўшы, што да чаго, я энергічна заківаў буйнай кампазітарскай галавой: у гэтую цяжкую часіну абмінуць такую магчымасць — злачынства.

З таго дня пачаў думаць. Учытвацца ў жоўтыя старонкі старых зборнікаў. Накідваць мелодыі. Змушваць да супрацоўніцтва знаёмых маладых літаратараў і рэжысёраў. У творчай групе з'явіліся паэт Л. Пранчак і рэжысёр А. Ляляўскі. Мяне пачало зноўку калаціць ліхаманкай і пучыць мелодыямі. Абвастрыўся творчы сверб. На рабочым раялі запалілася маленькая лампадка, і тэматызм пайшоў горлам.



На сённяшні дзень песні ўчарне гатовыя. Іх 15—13 на вершы Багдановіча і 2 у садружнасці з Пранчаком. Папярэдняя экспертыза сіламі аркестравых вакалістаў на просты плагіят дала, падаецца, вынік адмоўны.

**Чацв. 16.1.1992 г.**

У белым смокінгу і матыльку на фоне аркестрантаў ва ўсім чорным Мэтр глядзеўся досыць імпазантна і прэзентабельна. Дырыгуючы, ён то элегантна шпацыраваў па сцэне, то стаяў у паўабароту, а то і паказваў зале профіль. Было прыгожа.

**Аўт. 18.2.1992 г.**

Прэм'ера — з усімі яе наступствамі — адбылася-такі. Патроху ачуньваю. Праз рознастотны шум у чэрапе намагаюся прарвацца ў сферу чагосьці больш ці менш уцямнага.

Так. Філармонія. Перапоўненая зала. Пульт. Цемра. Аркестр і Фінберг на сцэне. Пранікнёны голас Бандарэнкі. Усе стараюцца. Дырыжор таксама, нягледзячы на стомленасць. Усё часцей павароччваецца тварам да саліста (заадно і да публікі) і замілавана прымружвае вочы. Палачка яго пачынае рухацца ўпоперак такта, ды гэта не збівае спанатраных аркестрантаў. У маленькіх паўзах паміж песнямі публіка рэагуе надзіва бурна. Нават б'е ў ладкі і часам крычыць "брава!". Скорыкаў з лірай набаку праходзіць "на ўра". З баянам — таксама. Авацыя вакальнаму ансамблю. Атмасфера напаляецца і вырастае ў апафеоз — шматгалосую "Пагоню" з пампезнай кодай і воклічамі "Жыве Беларусь!" — "Жыве!!!" Авацыя, паклоны, кветкі, віншаванні, буфет.

У маленькім дырыжорскім пакоі, куды набіваецца шмат набліжаных, "хурдук" філармоніі дае вялікую прамову. Яго ніхто не слухае, усіх цікавяць шампанскае, каньяк, гарэлка і бутэрброды. Маэстра сядзіць у цёмным кутку, паглыблены ў сябе, і павольна разгойдваецца, як у сінагозе. Думае: "Каб я так жыў, яшчэ пару такіх прэм'ер, і музыка зайграе ўжо ў маім доме". (Паплюём тройчы праз левае плячо і пастукаем па дзеравяшцы.)

**Пт. 27.3.1992 г.**

Вясна. Гразка. Куды ні ткніся — паўсюль бруд.

Па брудных лужынах у ялавых ботах прабіраюся да бруднага серабранскага (Серабранка — сталічны мікрараён. — **С.Б.**) гастранома. Прадаўшчыца ў брудным халаце засяроджана абважвае мяне на брудных прэпарыраваных вагах. Бруднымі чырвонцамі разлічваюся ля касы.

Ля бруднага піўнога шалмана брудныя мужыкі ды бабы. Яны п'юць нешта мутнае з брудных літровых слоікаў. Задаволена выціраюць бруднымі рукамі губы і зычна брыдкаслоўяць.

Брудны дом. Непрыстойна смярдзючы брудны ліфт. Брудныя запляваныя прыступкі ды брудныя словы на цёмна-сініх непрыватызаваных сценах...

Вясна.

Сёмы год перабудовы.

**(Працяг будзе)**
***(Пераклад С. БЕРАСЦЕНЬ)***



***Фота з архіва Вольгі ПАЛІВОДЫ і рэдакцыі "ЛіМа".***

**ДАНІНА ПАМЯЦІ**

# ЗВАЛІ ЯЕ ПАЎЛІНКАЙ

У 1949 г. я закончыла Ваўкалацкую сямігодку, а ў Будславе адкрыўся 8-ы клас. Мой бацька ўладкаваўся на працу токарам у Будслаўскую МТС. Мы там жылі ў старажоўцы ў польскай канюшні, якая стала гаражом для трактароў. Нягледзячы на такія складаныя ўмовы жыцця, для мяне ўсё было цікавым. А з якім хваляваннем я ішла ў школу! Ніводнага чалавека знаёмага, ні настаўніка, ні вучня. У той час яшчэ трэба было плаціць за навучанне ў 8—10 класах па 150 рублёў у год.

Прыйшла я ў школу 1 верасня. Мне здаецца, што і лінейкі ні якой не было, і кветак настаўнікам ніхто не прынёс, і настаўнікаў ніхто не прадстаўляў. Вучні, што ўжо тут вучыліся, трапяталі перад імёнамі: Мацяшкова Стэфанія Юльянаўна, матэматык з вялікім стажам работы ў польскай школе. Яе муж, былы польскі афіцэр, быў асуджаны савецкімі ўладамі. Настаўніца была строгая і прадузята адносілася да вучняў. Не раз і не два я чула: "Мае вучні". Мяне яна не ўзлюбіла. Можа, таму што я праваслаўная, тое, што я мела пяцёрачнае пасведчанне, мне толькі пашкодзіла. Яна мяне папракала: "Выдатніца!", калі я, ведаючы яе адносіны да мяне, гублялася ля дошкі і не магла сказаць ні слова. Мацяшкова вучыла толькі год і да канца года я крыху прывыкла да яе і выраўнялася ў вучобе з яе лепшымі вучнямі.

Другое імя: "Паўлінка". Я доўгі час не ведала яе прозвішча. На ўроках, канечне вучні называлі яе Паўліна Вікенцьеўна, а за вочы толькі імем купалаўскай гераіні. Праз нейкі час я даведалася, што вядомая п'еса і названа так іменна пад канкрэтную семінарыстку Паўліну Мядзёлку, якую Янка Купала моцна кахаў і хацеў з ёй ажаніцца, а яна адмовіла, выйшла за іншага і была з ім нешчаслівай. Маці Янкі вельмі шкадавала, што шлюб іх не адбыўся. Усё-такі яна Паўліна Мядзёлка самая першая выканала ролю Паўлінкі ў Пецярбургу, а другі раз у Вільні, трэці раз у Мінску. Аб гэтым сведчаць успаміны яе самой.

1 верасня 1949 г. першы ўрок рускай літаратуры ў 8-м класе. Расчыняюцца дзверы і ў клас заходзіць сярэдняга росту сталая жанчына. Ёй быў тады 57-ы год, але яна здавалася старэйшай. Напэўна, жыццё яе заўчасна састарыла. Яна зайшла хутка, энергічна, прывіталася, зрабіла пераклічку з мэтай знаёмства з вучнямі. Нас было ў класе 29 чалавек. Большая частка прыйшла з іншых сельскіх школ. Потым многія не вытрымалі рэжыму новай школы, якую ў 1952 г. скончылі толькі 15. Цяжэй было вучыцца ў названых двух настаўніц. Хаця і нямецкая мова патрабавала многа ўвагі. Прыйшоў малады настаўнік з інстытута Л. М. Яновіч. Тут мяне адразу выдзелілі. Мне пашанцавала: у сямігодцы, настаўнік з сярэдняй адукацыяй у час вайны быў у Германіі і сваё веданне нямецкай мовы перадаў вучням.

Паўліна Вікенцьеўна была апранута ў чорным аксамітавым касцюме, у белай блузцы і з чорным гальштукам. І колькі я яе бачыла, яна ўвесь час хадзіла ў гэтым убранні. Яшчэ ў яе быў плашч бледна-жоўтага колеру. Зімой яна насіла чорнае паліто і футравую шапачку. Часам паверх яе завязвала пуховую шэрую хустку.

Яна насіла акуляры, кароткія валасы на касы прабор. Валасы былі аднародна сівыя з астаткамі белых калісьці хваль. Яе выгляд ствараў уражанне акуратнай інтэлігентнай жанчыны даўнейшага часу. Вочы былі светлыя, напэўна ж, у маладосці яны былі цямнейшага колеру, ад перажытага выцвілі.

Мова выразная, даходлівая, лаканічная. Першы ўрок па літаратуры быў на тэму "Церковно-славянская литература IX—XI вв.". Трэба сказаць, што яго змест абрушыўся на ўсіх і маю галаву, як цэбар халоднай вады. Паміж праграмай сямігодкі і 8-м класам — бяздонне, ніякага маста.

У 8-м класе з'явіўся ўрок "Крытыка", аб якім ніхто паняцця не меў, а кніжак не было. Я з урока нічога не запомніла. Прыйшла дадому, а пачытаць не было з чаго. Іду заўтра на ўрок. І першую Паўліна Вікенцьеўна выклікае мяне. А я горда адказваю: "А я не чытала. У мяне няма кніжкі". "Садись, единица. Спрошу на следующем уроке". Мне падказалі, у каго можна знайсці патрэбную кніжку. Вечарам іду па яе да чужых, незнаёмых людзей. Не знайшлося там гэтай кніжкі. Да гэтага часу мяне не вельмі трывожыла першая ў жыцці "адзінка", а тут я задумалася: "А што будзе заўтра? Зноў жа будзе "кол". І тут мяне так разабрала, што я, можа, гадзіну плакала пад тоўстым дрэвам гістарычнага парку, які зараз напалову знішчаны, а палова ахоўваецца дзяржавай. Я не ведала, як я перажыву наступны дзень. Але на гэты раз пранесла. Мяне не паднялі. А да наступнага ўрока я падрыхтавалася. Бацька купіў мне патрэбную кніжку ў Даўгінаве. Першая адзнака была "тройка". Былі "тройкі" і яшчэ нейкі час. Паўліна Вікенцьеўна была вельмі патрабавальнай настаўніцай, але справядлівай, на яе ніхто не крыўдзіўся, і добразычлівай. Як яна вяла апытанне? Ніколі не перабівала, слухала ўважліва, рабіла пазнакі ў сваім сшытку. Скончыў вучань гаварыць, хто хацеў, мог зрабіць дапаўненні, папраўкі, рэцэнзіі адказу. За такое ў канцы ўрока некаторым вучням ставіліся адзнакі. Пасля выступленняў вучняў настаўніца сама яшчэ дапаўняла, аналізіравала адказ вучня. Здавалася, і "тройкі" не будзе, а, глядзіш, і "4", рэдка "5". Бывалі такія выпадкі: адзін вучань атрымаў "2", другі,трэці... Тады настаўніца нервавалася, пачынала трэсціся галава і яна забірала класны журнал і імкліва выходзіла з класа. Праз колькі хвілін дэлегацыя вучняў, больш з вінаватых, ішла яе прасіць вярнуцца. І яна вярталася.

Яшчэ Паўліна Вікенцьеўна выкладала псіхалогію і логіку. Гэтыя ўрокі былі цесна звязаны з урокамі літаратуры. Яна не вельмі любіла расказваць пра сябе, але ж нешта "прарывалася". Неяк аднойчы яна сказала: "Что имеем, не ценим...". "Хто з вас цешыцца небам? Ніхто і ўвагі не звяртае. А я сядзела ў турме, то, каб яго ўбачыць, лажылася на зямлю, каб праз турэмнае акно ўбачыць хоць кавалачак яго".

Яна нікога з вучняў не абражала і не выказвала сваёй прыхільнасці, нават калі для гэтага былі прычыны. Смяялася вельмі рэдка, але шчыра. Вось, напрыклад, яна вельмі смяялася, калі адзін з вучняў, перадаючы фразу са слова "Аб палку Ігаравым" "...а Игорь со своими курянами..." сказаў: "А Ігар са сваімі куранятками..."

Мне нядаўна мая аднакласніца Сідарэвіч Аня сказала: "А яна ж цябе любіла". А я гэтага не ведала.

Паўліна Вікенцьеўна ў свой час прымала актыўны ўдзел у стварэнні БНР. Я сама бачыла яе на фотаздымку ў складзе ўрада гэтай нядоўгавечнай рэспублікі, але перад вучнямі яна выглядала актыўнай паборніцай камуністычных ідэй. 21.12.49 г. у дзень нараджэння І. В. Сталіна яна сказала: "Смотрите, как ярко светит солнце! Даже природа торжествует и поздравляет вождя". Яна шчыра верыла ў светлую сацыялістычную будучыню і што гэтая будучыня вельмі блізка. Гэта пад яе ўплывам я напісала вельмі аптымістычнае сачыненне: "Каким я вижу Будслав через 15 лет". Гэта было ў 1950 г., а ў 1963 г. я прыехала кіраваць Яцкавіцкай васьмігодкай у тым жа сельсавеце. І мяне было маё расчараванне, калі я ўбачыла, што наш Будслаў не расцвіў, а заняпаў. Расчаравалася і Паўліна Вікенцьеўна. Я з ёй тады сустрэлася на пасяджэнні сельвыканкама. Яна была дэпутатам. У свае 70 год яна выглядала даволі старэнькай бабулькай, але па-ранейшаму энергічнай, хоць і ў школьны мой час і пасля часта хварэла. Яна актыўна выступала на пасяджэнні, падымала нейкія надзённыя пытанні мясцовых жыхароў, але ўжо намнога больш прыземленыя, без летуценняў.

Дзякуючы Паўліне Вікенцьеўне я крышку наблізілася да тэатра. Самы першы крок быў зроблены, калі я ўбачыла "Паўлінку" ў пастаноўцы настаўніцы. Ролі выконвалі мясцовыя артысты. Другі: гэта па яе падказцы я праслухала многія оперы па радыё. Тады гэта было магчыма. Трэці: я паслухала ў Маладзечне оперу "Травіята" Дж. Вердзі, што вельмі настойліва рэкамендавала зрабіць нам выкладчыца літаратуры. Ёй гэтая опера вельмі падабалася.

Паўліна Вікенцьеўна ў 10-м класе ў нас ужо не выкладала. Прыслалі настаўніцу з вышэйшай адукацыяй. Настаўніца была добрая, падрыхтаваная, не такая патрабавальная, але мы не маглі забыць Паўліну Вікенцьеўну, мы пастаянна параўноўвалі іх і новая праігрывала.

Яшчэ адзін раз у мяне была сустрэча з Паўлінай Вікенцьеўнай. У 1953 г. пасля заканчэння 1-га курса фізмата Маладзечанскага настаўніцкага інстытута, я ехала на цягніку дадому, і ехала Паўліна Вікенцьеўна Мядзёлка, і яна расказала пра педсавет, на якім ішла размова пра мяне. А прычына размовы была такая.

Быў цёплы чэрвеньскі дзень. Я ішла на экзамен па геаметрыі праз балота і лес 18 кіламетраў. Ногі разбухлі ад вады і сонца, аж трашчалі. Капронавых панчох мне не было за што купіць, а цёплыя адзець не захацела. Здала экзамен добра, не чакала вынікаў і хутчэй дамоў. Дырэктар перад усім класам і камісіяй расцаніла тое, што я была без панчох, як непавагу да камісіі. Мне гэта перадалі сябры. Я была страшэнна пакрыўджана. І вось гэты факт абмяркоўвалі на педсавеце, абмяркоўваючы ход экзаменаў. Паўліна Вікенцьеўна старалася абараніць мяне за што я ёй была вельмі ўдзячна, а ў школу пасля гэтага я не заходзіла цэлых 40 гадоў, а цяпер была ўжо некалькі разоў, на 200-годдзі і на другіх святах. Школа носіць імя Паўліны Мядзёлкі. Была два разы на яе магіле. Занесла кветкі. Але ўсё гэта запозна. Вось каб вярнуцца на гадоў 50 назад, у школу, я ж бы яе шмат чаго спыталала, аддзячыла б шчыра. Яна вяла скрытнае жыццё ў сэнсе таго, што не любіла "спавядацца", а вось культуру будслаўцам прывівала, у якой сама была выхавана. Яна не любіла фатаграфавацца. У мяне толькі два здымкі ў кнізе "Памяць". Адзін, як у музеі Я. Купалы, другі — тры пакаленні "Паўлінкі" ў сталым узросце.



У маім жыцці было шэсць жанчын, вельмі важных і знаёмых, якія аказалі на мяне значны ўплыў. Паўліна Вікенцьеўна Мядзёлка самая першая з іх і яе ўплыў найбольшы, аб чым я заўсёды буду памятаць.

Яна толькі ўрокі вяла на рускай мове, а размаўляла з усімі на беларускай. Усе веды па літаратуры ў мяне ад Паўліны Вікенцьеўны, я іх перанесла на родную літаратуру, якую ў СШ у нас выкладалі дрэнна, а то і зусім не выкладалі.

**Ніна ЗАХАРЭВІЧ,**
**выпускніца Будслаўскай СШ 1952 г.**

***P.S. Матэрыял Ніны Захарэвіч друкуецца з захаваннем аўтарскага стылю.***



## АФІША ВЕРАСНЯ — КАСТРЫЧНІКА

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета РБ**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

26 — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык".
28 — А. Хачатуран "Спартак".
1 — Л. Мінкус "Дон Кіхот".
3 — К. Орф "Карміна Бурана", І. Стравінскі "Вясна свяшчэнная".

**Пачатак ранішніх спектакляў у** 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41

27 — Д. Вердзі "Трубадур".
28 (раніца) — Дзіцячы музычны тэатр-студыя, Ц. Кюі "Кот у ботах".
30 — А. Барадзін "Князь Ігар".
2 — Д. Вердзі "Травіята".
4 – М. Рымскі-Корсакаў "Царская нявеста".

Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы**
вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17

26 — А. Астроўскі "Свае людзі — паладзім", трагікамічныя сцэны з жыцця глухамані
27 — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж", камедыя
28 — Далецкія, М. Чарот "Ажаніцца — не журыцца", беларускія вадэвілі
29 — Р. Горын "Памінальная малітва"

Малая сцэна

28 — Я. Баршчэўскі "Беларусь у фантастычных апавяданнях", монаспектакль

**Пачатак ранішніх спектакляў у** 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08

26 — Д. Альмагор "Толькі дурні сумуюць", прытча.
27 — А. Курэйчык "Понцій Пілат", гістарычная драма.
28 — С. Кавалёў "Балада пра Бландою", сцэны кахання і нянавісці.
30 — В. Панін "Песні ваўка", драматычна-пластычная элегія.

**Пачатак спектакляў** а 19-й гадзіне.

**Тэатр студыя кінаакцёра**
пр. Машэрава, 13, тэл. 223-08-11

26 — Д. Кілці "Мілы хлус"
27,28 — А. Данілаў "Мы ідзём глядзець "Чапаева", трагіфарс
30 — "Айседора. Танец кахання", лірычная драма

**Пачатак спектакляў** а 19-й гадзіне.

**Тэатр юнага гледача**

26 ( а 11-й ,14-й гадзіне) — Я. Шварц "Папялушка"

Эксперыментальная сцэна

27 (а 11-й, 14-й гадзіне) — С. Навуменка "Залатое сэрцайка"

**Беларускі Дзяржаўны маладзёжны тэатр**
вул. Даумана, 1, тэл. 289-32-62

26 — Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, альбо Вяселле Фігара".
27 — М. Куліш "Казанне пра Гуску..." (прэм'ера).
28, 31 — І. Зінгер "Тойбеле і яе дэман".
30 — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"
1 — Б. Шоу "Пігмаліён"
2 — У. Шэкспір "Жарсці ў Віндзоры"
3 — А. Астроўскі "Позняе каханне"
4 — Ж. Б. Мальер "Хітрыкі Скапэна"

**Пачатак вячэрніх спектакляў** а 19-й гадзіне.

## ГАСТРОЛІ

**Сёння на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага (вул. Валадарскага, 5) праходзяць гастролі Санкт-Пецярбурскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра камедыі імя М. Акімава. Славутыя піцерскія акцёры (а ў склад трупы ўваходзяць І. Дзмітрыеў, М. Свецін, А. Равіковіч) ужо разыгралі камедыі О. Уайльда ("Як важна быць сур'ёзнымі"), К. Гальдоні ("Закаханыя"), І. Тэрдзолі і Э. Вайме ("Ноч у Венецыі")і ў бліжэйшы час парадуюць мінчукоў толькі двума спектаклямі "Хачу здымацца ў кіно" М. Саймана (28 і 30 верасня), а таксама "Яблыкавы злодзей" К. Драгунскай (29 верасня і 1 кастрычніка)**

## ГОСЦІ

## З МУЗЫЧНАГА БОНА

**Свята беларускай сталіцы сёлета дапоўнілі-аздобілі музычныя імпрэзы, наладжаныя падчас Дзён Бона ў Мінску (паміж гэтымі гарадамі існуюць даўнія пабрацімскія стасункі).**

**Прынамсі, два канцэрты арганнай музыкі даў у камернай зале, што на Залатой Горцы, наш германскі госць Штэфан Хорц. У касцёле Св. Сымона і Св. Алены (Чырвоным) адбылося выкананне "Рэквіема" В. А. Моцарта — узрушальная сумольная творчая акцыя бонскага камернага аркестра, хору "Калегіум Музікум" пад кіраўніцтвам маэстра Вальтэра Мунка ды мінскіх салістаў.**

**Уразіла нашу публіку і выступленне ансамбля духавых інструментаў "Бучына". Гэты незабыўны канцэрт, які прайшоў у камернай зале, прэзентаваў старадаўні пласт нямецкай, англійскай, фрацузскай так званай вулічнай, а яшчэ больш — палацавай музыкі, якая суправаджала колішнія свецкія імпрэзы, афіцыйныя цырымоніі ды ўрачыстасці.**

**Свежасці ўражанняў спрыялі нязвыклыя для сённяшняй нашай публікі тэмбры гучання: "Бучына" складаецца з медных духавых інструментаў, рэканструяваных паводле старадаўніх (аўтэнтычных) узораў. Дарэчы, імя ансамблю дала назва аднаго з такіх інструментаў. Пра ўсё гэта і пра кожны твор, прадстаўлены ў праграме, распавядалі нашы госці падчас канцэрта, які стаўся і змястоўнай, пазнаваўчай сустрэчай, і шчырай сяброўскай вечарынай.**

**Я. КАРЛІМА**

## АНОНС



## СЛОВА ПЛЮС МУЗЫКА

***3 кастрычніка ў Зале камернай музыкі мае адбыцца творчая вечарына Таццяны МУШЫНСКАЙ. Апроч яе вершаў, прагучаць камерныя вакальныя і харавыя творы, напісаныя на тэксты паэтэсы беларускімі кампазітарамі.***

**"Твой самы кароткі шлях — да мяне..." радок Т. Мушынскай стаўся і назвай праграмы гэтага вечара-канцэрта, у якім возьмуць удзел кампазітары, спевакі, музыканты-інструменталісты, харавыя калектывы і падчас якога пройдзе прэзентацыя першага аўтарскага CD паэтэсы. Ён выдадзены мінскай фірмай "Ковчег", называецца "Огонь в ночи" і змяшчае рамансы М. Марозавай, напісаныя на тэксты Т. Мушынскай.**

# СПОСАБ ГУТАРКІ З ЛЮДЗЬМІ

Звяртаючыся да гледачоў са старонак маляўнічай праграмкі гэтага спектакля, яго рэжысёр-пастаноўшчык, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы М. Ізворска зазначыла: "Для М. Мусаргскага "мастацтва ёсць не самамэта, а сродак для гутаркі з людзьмі". І тэатр хацеў бы "Хаваншчынай" падзяліць з кампазітарам боль і працягнуць пачатую ім гутарку пра разгубленую душу народа, якая дазволіла караням зла разрасціся ў ёй".

Праз жорсткасць, бязладнасць, пакутлівасць і... недарэчнасць жыцця, перастворанага ў сваёй сцэнічнай версіі хрэстаматыйнай оперы, тэатр правёў публіку зноў, паказаўшы на адкрыцці сезона гэты прэм'ерны спектакль. "Хаваншчына" як сацыяльная з'ява — гэта негатыў жыцця. Ці проста злое жыццё: без усмешкі, без святла ў чалавечых вачах і адносінах, без годнасці сёння, без мары пра заўтра. "Хаваншчына" — гэта грахі: жаданняў без любові, ганарлівасці ды "уныния", забойства і самаспалення. Апантанасць уладай, бунт свавольных, роспач падманутага люду...

16 верасня спектакль прайшоў пад кіраўніцтвам В. Чарнухі, нядаўна прызначанага галоўным дырыжорам. Было нямала натхнёных імгненняў: гучанне мужчынскага хору, сцэнічнага аркестра, у цэлым гарманічны ансамбль салістаў. Апладысменты ў той вечар адрасаваліся пераканаўчаму ў сваім вобразе А. Мельнікаву (Іван Хаванскі), па-акцёрску выразнаму Г. Чэпікаву (Падзячы), пранікнёнай Н. Рудневай (Марфа)... На годнай вышыні майстэрства былі С. Франкоўскі (князь Васіль Галіцын), У. Пятроў (Шаклавіты), Дасіфей (В. Кавальчук). Не падвяла тэатр, які паклікаў яе да роздуму, і публіка: шматлікая, па-святочнаму настроеная, чулая, шчодрая на авацыі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

***ФОТА А. ДЗМІТРЫЕВА***


Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1557
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 24.09.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3598

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12